*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***


# НАША СЛОВА

ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 36 (671) 15 ВЕРАСНЯ 2004 г.


## Беларускія дажынкі ў Лідзе

11 верасня ў Лідзе прайшло раённае свята "Дажынкі". Асаблівасцю свята з'яўлялася тое, што дажынкі ў Лідзе святкаваліся ўпершыню. Раней Ліда была чыста прамысловым горадам, а з гэтага года горад і раён аб'яднаныя ў адну адміністрацыйную адзінку і свята дажынак прыйшло ў Ліду. І яшчэ адна асаблівасць. Свята было арганізаванае і вялося на чыстай беларускай мове. Па-беларуску была запісана фанаграма, па-беларуску вялі рэй вядоўцы, па-беларуску вы-ступалі творчыя калекты-вы, прынамсі падчас афі-цыйнай часткі. Ніякага "русского поля". Усё сваё, арыгінальнае, на грунце народных традыцый і на-роднай творчасці.

Арыгінальна гучалі народныя жніўныя песні, з велічаннямі добраму пану, які "за апошні снапочак, з жыта вяночак паднясе мёду збаночак". Пан у асобе старшыні райвыканкаму Андрэя Худыка і сапраўды мусіў выкупляць вянок за кошык з пачастункамі, з якога сімпатычна тырчалі два рыльцы бутэляк.

А. Худык падвёў вынікі жніва. Лідскі раён намалаціў больш 68000 тон збожжа пра сярэдняй ураджайнасці 31 ц з гектара. Лепшыя паказчыкі, як звыкла, у Мажэйкаве.

Адбыліся ўзнагароджванне пераможцаў жніва, канцэрт мастацкіх калектываў, сваіх і менскіх, ды народныя гулянні.

*(Працяг тэмы на ст. 5 і 9.)*

## Пабачыў свет 500-ты нумар газеты "БЕЛАРУС"

*Жыве Беларусь!*

**БЕЛАРУС**

Address: P. O. Box 3225 Farmingdale, NY 11735 | BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World Published by the Belarusan American Ass'n inc. ISSN 1054-9455 | №500 Верасень 2004 г. Год выданьня 55

**500 нумароў БЕЛАРУСА**

**ЗАЯВА**

з прычыны закрыцьця Эўрапейскага Гуманітарнага Ўнівэрсытэту ў Менску

*Рада Беларускай Народнай Рэспублікі (на Чужыне)*
*Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва (Нью-Ёрк)*
*Кааліцыя ў Абароне Дэмакратыі й Правоў Чалавека ў Беларусі (ЗША, Канада)*
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
*Згуртаваньне Беларусаў Канады*

*10 верасня 2004 г.*

**Спадару Марату Клакоцкаму**
**PO Box 3225**
**Farmingdale, NY 11735**

**Вельмішаноўны спадар Марат!**

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" шчыра віншуе Вас і ў Вашай асобе Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне з выхадам у свет 500-га нумара газеты "Беларус", якая лучыць нашых суайчыннікаў з Бацькаўшчынай.

Дзякуючы Вашаму выданню беларусы свету маюць магчымасць штомесяц атрымліваць самую актуальную, самую надзённую, самую цікавую інфармацыю пра сваю Радзіму. "Беларус" карыстаецца попытам і папулярнасцю і ў самой Беларусі.

Выказваем шчырую падзяку ўсім, хто шчыруе над газетай, зычым плёну, задавальнення ад працы ды добрага здароўя.

**З павагай,**
**Старшыня ТБМ** **Алег Трусаў.**

## ТБМ НАКІРАВАЛА ЛІСТЫ ЎЛАДАМ У СУВЯЗІ З АКТАМ ВАНДАЛІЗМУ НА МАГІЛЕ ЯКУБА КОЛАСА Ў МЕНСКУ

Менск, 10 верасня. Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" накіравала лісты ўладам у сувязі з актам вандалізму на надмагільным помніку народнаму паэту Беларусі Якубу Коласу, пахаванаму на Вайсковых могілках у Менску.

Як паведаміў БелаПАН старшыня ТБМ Алег Трусаў, на надмагіллі вялікаму беларускаму песняру выразна бачны надпісы чорнага колеру, некаторыя з іх — гатычным шрыфтам.

У сувязі з актам вандалізму кіраўніцтва аб'яднання накіравала адпаведныя лісты генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь Віктару Шэйману і старшыні Менскага гарадскога выканаўчага камітэта Міхаілу Паўлаву.

Старшыня ТБМ выказаў спадзяванне, што звароты аб'яднання паспрыяюць прыняццю належных мераў па ахове Вайсковых могілак.

***Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.***

## У МЕНСКУ АДБЫЛАСЯ НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ, ПРЫСВЕЧАНАЯ 490-ГОДДЗЮ АРШАНСКАЙ БІТВЫ

Увечары 7 верасня ў Менску адбылася навуковая канферэнцыя, прысвечаная 490-годдзю перамогі войска Вялікага Княства Літоўскага на чале з вялікім гетманам Канстанцінам Астрожскім над арміяй Вялікага Княства Маскоўскага.

У гэтай грандыёзнай бітве, што адбылася 8 верасня 1514 года на рацэ Крапіўне пад Оршай, 80-тысячнае маскоўскае коннае войска пацярпела поўную паразу, нягледзячы на тое, што амаль утрая пераўзыходзіла армію ВКЛ.

Доктар гісторыі Анатоль Грыцкевіч зазначыў, што гераічная перамога К. Астрожскага пад Оршай дазволіла ВКЛ захаваць беларускія і украінскія землі ад паглынання агрэсіўным усходнім суседам.

Доктар філасофіі Уладзімір Конан падкрэсліў, што на пачатку XVI стагоддзя дзякуючы намаганням дзеячаў беларускага Адраджэння ВКЛ перажывала росквіт культуры, эканомікі і ваеннай моцы краіны, а таксама ў развіцці абарончага і культавага будаўніцтва. Навуковец мяркуе, што ў ваенных дзеяннях па абароне сваёй Айчыны заўсёды перамагае народ, які валодае высокай духоўнасцю і культурай.

***Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.***



№ 36 (671) 15 ВЕРАСНЯ 2004 г. наша слова

# З НАРОДНЫХ ПРЫПЕВАК

Амаль увесь ранейшы, савецкага перыяду фальклор, які ў свой час актыўна прапагандавалі, прымушалі вывучаць у сярэдніх і вышэйшых школах, выдавалі асобнымі кніжкамі, а пасля ўключылі ў шматтомны акадэмічны збор пад агульнай назвай "Беларуская народная творчасць", сёння непрыемна, агідна, сорамна чытаць. Ледзь не ўсе гэтыя савецкія казкі, песні, прыказкі, загадкі, прыпеўкі далёкія ад сапраўднай вуснай народнай творчасці. Яны часцей за ўсё прымітыўныя, саматужныя, апалагетычныя, зробленыя ў духу сацыялістычнага рэалізму, падпарадкаваныя прынцыпу партыйнасці. Чаго вартыя, напрыклад, такія нібыта прыказкі, поўныя ўсенароднага самаўніжэння: ***"Каб не ленінскія творы, мы б усе жылі ў горы"***, ***"Дзякуй партыі, што мы людзей вартыя"***, ***"Каб не Ленін і не партыя, былі б нічога мы не вартыя"***. Або такая прыпеўка: ***"Слава сокалу, што родам з-пад каўказскіх скалаў, што з Крамля праменні сее з юнацкім запалам"***.

А была ў тыя часы і сапраўдная вусная паэзія, толькі крытычнага кірунку. Але яе і блізка не дапускалі да друку ды і запісваць з чыіх-небудзь вуснаў не адважваліся.

Газета "Народная воля" ўвесну гэтага года распачала была рубрыку "Народныя прыпеўкі", а пасля чамусьці перастала іх друкаваць. Пасылаў туды і я некалькі прыпевак, але яны так і не пабачылі свет. А прыпеўкі гэтыя не мною прыдуманыя, а пачутыя ў апошнія 10-15 гадоў ад знаёмых, а то і зусім незнаёмых мне людзей ці на вечарынах мастацкай самадзейнасці. Значыць, гэта ўжо ў нейкай ступені народныя прыпеўкі. Дык няхай жа яны і далей ідуць у народ, запамінаюцца, пашыраюцца, узгадваюцца ў патрэбны момант. Вось яны:

*А як Ленін паміраў,*
*Сталіну наказваў:*
*- Многа хлеба не давай,*
*Мяса не паказвай.*

*Нам сонца не трэба:*
*Нам Партыя свеціць!*
*Не трэба нам хлеба –*
*Работу давай!*

*Прайшла зіма,*
*настала лета.*
*Ой, дзякуй Партыі за гэта!*

*Народ і Партыя адзіны,*
*Ды не адны ў іх магазіны.*

*У Гаване і Афгане*
*Нам прыйшлося пабываць:*
*Там браты нашы славяне,*
*Трэба ж ім дапамагаць.*

*У Гаване і Афгане*
*На прыйшлося пабываць.*
*Не ў свае мы селі сані –*
*Цягу мусілі даваць.*

*У Гаване і Афгане*
*Нам прыйшлося пабываць.*
*Дзе б яшчэ паспрабаваць*
*Камунізм пабудаваць?*

*З неба атамка упала*
*Проста міламу ў штаны.*
*Хай ўзарвецца,*
*што папала –*
*Толькі б не было вайны!*

*Ой ты, бульбачка*
*Беларуская...*
*А як выганяць гарэлку,*
*Пішуць: "Русская"...*

*Я ўкраў мяшок гароху,*
*А Пятровіч – самалёт.*
*Паўшчувалі яго трохі,*
*Мне ж усыпалі пяць год.*

*Ой, купіла я карову,*
*Захацела малака.*
*Ды карове ж трэба сена*
*І наглядчыка з ЦэКа.*

*У калгасе добра жыць:*
*Адзін косіць, сем ляжыць.*
*А як сонца прыпячэ,*
*Дык і гэты уцячэ.*

*Ёсць ў калгасе*
*птушкаферма,*
*І другая хутка будзе,*
*А калгаснік бачыць яйцы,*
*Калі ў лазні мые грудзі.*

*Я па кладачцы іду,*
*Кладачка хістаецца.*
*Ой, не верце камуністам,*
*Пакуль не пакаюцца.*

*Я па кладачцы іду,*
*Кладачка хістаецца.*
*Гэта ж з кадраў ВПШ*
*Вертыкаль складаецца.*

*Паглядзіце: хто ў сенаце?*
*Колькі там былых людзей!*
*Малафей у той палаце,*
*Сакалоў і Дземянцей.*

*Ёсць у нас такое цуда,*
*Што і ўвечары, і рана*
*Аблівае толькі брудам*
*Ўсім з блакітнага экрана.*

*Спадарожнік наш лятае,*
*Аж падняўся ў край нябес*
*І навекі праслаўляе*
*Маць тваю КПСС!*

*Ой, ляцелі гусі,*
*Каля рэчкі селі.*
*А чаму ж на Беларусі*
*Ўсе так абрыселі?*

***Іван Лепешаў,***
***прафесар кафедры беларускай мовы Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы, доктар філалагічных навук.***

## *Мовазнаўчы досвед*

# Грамада – абшчына і грамадоўскі – абшчыны, грамадовец – абшчыннік

Слова ***абшчына*** не фіксуюць слоўнікі 20-х гадоў ХХ ст. Рас. ***община*** мае тут сваім адпаведнікам ***грамада***. У 50-80- гадах ХХ ст. акадэмічныя слоўнікі беларускай мовы падаюць слова ***абшчына*** толькі як гістарызм. "Русско-белорусский словарь". (1953) пад рэдакцыяй Я. Коласа, К. Крапівы, П. Глебкі засведчыў: "Община, ж. 1 ист. абшчына, ж; 2 (общество, организация) уст. суполка, (товарищество) таварыства; религиозная община – рэлігійная суполка (рэлігійнае таварыства)" (с.346). Пацверджана гэта і ўсімі перавыданнямі гэтага слоўніка (гл., напрыклад, РБС-93, т.2, с.314). Беларуска-руская слоўнікі 1962 і 1988-89 гадоў таксама падаюць слова ***абшчына*** толькі з паметай *"гістарычнае"* да рас. ***община***. Адначасна яны засведчылі і сваё слова ***грамада***, якое падаецца з наступнымі значэннямі: "Грамада 1. толпа, ватага; 2. дорев. община, громада; (собрание членов) общество, мир" (БРс-62, с.214). Пацверджана гэта і двухтомавым перавыданнем (БРС-88, с.332).

У сувязі з гэтым здзіўляе ігнараванне згаданага складальнікамі тлумачальных слоўнікаў, дзе бачым безгляднае капіяванне расейскіх слоўнікаў. Так, у першым томе "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы" (Мінск, 1977, с.89) чытаем: "Абшчына, ж. 1. У дакласавым грамадстве-форма аб'яднання людзей, якой характэрна калектыўная ўласнасць на сродкі вытворчасці, сумесная праца... 2. Добраахвотнае аб'яднанне для сумеснай дзейнасці; брацтва, садружнасць, арганізацыя". У аднакнігавым перавыданні (ТСБЛМ, Мінск, 1996, с.25): "Абшчына, ж. 1. Даўней: самакіравальная арганізацыя жыхароў якой-небудзь тэрытарыяльнай адзінкі. 2. Добраахвотнае аб'яднанне для сумеснай дзейнасці; садружнасць, брацтва, арганізацыя// прым. абшчынны". Усё тут перанесенае з даведнікаў: 1) "Словарь русского языка" В 4 томах. Т.2.Изд.II. М., 1982, с.579; 2) С.И. Ожегов. Словарь русского языка. Изд. 14. М., 1982, с. 387. Да таго ж, у акадэмічным 4-томавым расейскім слоўніку адмыслова падкрэслена, што слова ***"община"*** і ***"общинный"*** з значэннем ***"общество, организация"*** таксама выступаюць як застарэлыя словы.

Дык для чаго спатрэбілася архаічнае расейскае слова ***община*** замоцоўваць у сучасных беларускіх слоўніках?!

Сёння нацыянальны беларускі друк карыстаецца словам ***грамада*** і вытворнымі ад яго ***грамадоўскі*** (а не ***абшчынны***) і ***грамадовец*** (а не ***абшчыннік***). Вось што чытаем у артыкуле "Выхаваць асобу" М. Шаваркіна (Роднае слова. 2003. № 10): "Сфармаваць кожнага школьніка як асобу – адзіная мэта ўсіх настаўнікаў. У рэальнасці асобай называем людзей з любой нагоды і ў розных значэннях (як станоўчых, так і негатыўных). І заўсёды імкнемся гэтым словам вылучыць чалавека з грамады, адзначыць яго адметнасць" (с.58). Дзейны грамадовец ведае нормы і патрабаванні, прынятыя ў грамадзе (этычная адукацыя), імкнецца да справядлівасці (этычнае выхаванне), пастаянна працуе над фармаваннем асабістага і грамадоўскага сумлення, якое павінна грунтавацца на аб'ектыўнасці ў самакантролі і ў зносінах з іншымі (этычная дзейнасць) (с.81). або ў артыкуле гэтага ж аўтара "Я, беларус, - сусветы грамадзянін" (Роднае слова. 2003. №9): "Гэтаксама ўсё грамадоўскія (сяброўскія, сямейныя, сацыяльныя, партыйныя, дзяржаўныя і інш.) адносіны і падзеі адразу ўспрымаюцца (ці не ўспрымаюцца) душою. А ўжо следам наступае асэнсаванне... Ад Прыроды на пачуццёвую сістэму чалавека ўскладзена адказнасць за яго вытанчаную сувязь з навакольнай прасторай і за суладдзе ў грамадзе, за ўспрыманне планетнай і касмічнай духоўнай энергіі і за кірунак яе трансфармацыі. Гэтая аксіёма праверана ўсёй гісторыяй існавання чалавека. Пацверджаная ўсімі грамадоўскімі падзеямі і перапетыямі" (С.3).

# Паляваць на каго-што – паляваць за кім-чым

Дзеяслоў ***паляваць*** патрабуе ад залежнага назоўніка, каб ён меў форму вінавальнага склону з прыназоўнікам ***на*** (ці без прыназоўніка): ***паляваць на зайцоў, на качак, на лісу...***

Гэтая норма замацаваная акадэмічнымі слоўнікамі. Так, "Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К. Крапівы падае: "Паляваць (на каго, каго і без доп.) несов. Охотиться (на кого, за кем)" (БРС-62, с.601; БРС-89, с.94).

Пацвярджае гэта і "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я. Коласа, К. Крапівы, П. Глебкі (1953): "Охотиться несов. 1. (заниматься охотой) паляваць (на каго-што і без дополнения). 2. перен. ганяцца (за кім-чым)" (РБС-53, с.384). Засведчана гэта і ўсімі перавыданнямі слоўніка. Так, у другім томе РБС-93 (с.427) паўтараецца ўсё згаданае раней ў РБС-53.

Як бачым, рускаму ***охотиться*** у беларускай мове адпавядаюць два словы, пераноснае значэнне перадаецца асобнай лексемай – дзеясловам ***ганяцца*** (за кім-чым).

"Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.3. 1979, с.643) кваліфікуе слова ***паляваць*** як шматзначнае (4 значэнні), пры другім значэнні "высочваючы, імкнуцца напасці на чый-н. след, злавіць каго-н." Побач з кіраваннем ***"на каго"*** падае і ***"за кім"*** з прыкладам *"За вамі гестапа даўно палюе"*. Але ж тэкст гэты – калька рас. *"За вами гестапо давно охотиться"*. Памылковая, небеларуская сінтаксічная канструкцыя ўзнікла ў штучных варунках поўнага атаясамлівання семантыкі слоў ***охотиться*** і ***паляваць***. Аднак, яны, як сведчаць згаданыя акадэмічныя слоўнікі, гэтай уласцівасці не маюць.

Яшчэ далей у кірунку занядбання адметнасці беларускай мовы пайшоў "Тлумачальны слоўнік" 1996 года, на яго старонках бачым усе расейскамоўныя канструкцыі, перапісаныя з кнігі: "С. И. Ожегов. Словарь русского языка" (М., 1982, с.42) Параўн.; Охотиться за перепелами. О. за вражеским разведчиком. О. за редкой книгой. І ў беларускім слоўніку: паляваць за перапёлкамі; п. за варожым снайперам, п. за рэдкай кнігай (ТСБЛМ, с.430). Нават перароблены тут на расейскі лад той адзіны прыклад, які ў трэцім томе меў нарматыўную беларускую канструкцыю: "Акупанты палявалі на разведчыка..."

Вось як нішчыцца адметнае, сваё на карысць усесаюзнага стандарту і ў наш час – у сувярэннай Беларусі.

Гэтая недарэчнасць ***паляваць за кім*** – не прызнаецца за норму і найноўшым даведнікам. Так, трохтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" (Мінск, 2003. Выданне 3-яе, папраўленае і дапоўненае) падае: "Паляваць (на каго і без дополн.) несов. охотиться".

# Сёння – сягоння, сённяшні – сягонняшні

Слова ***сёння*** замацаванае як лексічная норма першым акадэмічным даведнікам. "Русско-белорусский словарь" (1953) пад рэдакцыяй Я. Коласа, К. Крапівы, П. Глебкі падае: "Сегодня, нареч. І в знач. сущ. сягодня, сёння; не с.-завтра – не сёння-заўтра; сягодняшний – сягонняшні, сённяшні" (с. 616).

"Беларуска-рускі слоўнік" пад рэдакцыяй К. Крапівы ўжо касуе гэтыя звыклыя нарматыўныя словы ***сёння*** і ***сённяшні***, адсылаючы да менш карыстаных варыянтаў ***сягоння*** і ***сягонняшні*** ("Каб было бліжэй да рускай мовы" – К. Чорны). Прадубляваная гэта і ў двухтомавым перавыданні слоўніка (БРС-88, 89), а таксама "Тлумачальным слоўнікам" пад рэдакцыяй К. Крапівы, дзе падаецца: "Сёння. гл. сягоння. Сённяшні гл. сягонняшні" (Т.5.Кн.1., с.124). Але ж радком вышэй на гэтай старонцы ў дэфініцыі (азначэнні слова) выкарыстоўваецца якраз слова ***сёння*** (а не ***сягоння***), якому, як згадвалася, на пятым радку ніжэй было адмоўлена ў праве на нарматыўнасць. Вось гэты прыклад: "Сёнека, прысл. абл. сёння". На жаль, такая неабачнасць, дакладней памылковасць кваліфікацыі моўных адзінак(***сёння і сённяшні***) засталася і ў 3-ім выданні "Беларуска-рускага слоўніка" (Мінск, 2003).

А нарматыўнасць абодвух прыслоўяў і ўтвораных ад іх прыметнікаў засведчыў "Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы", дзе чытаем: "Сягоння і сёння // прым. сягонняшні і сённяшні" (ТСБЛМ, 1996, с.647).

# Далёказрочны – дальназоркі

Першае слова мае натуральную, выразную будову і значэнне абедзвюх частак складанага слова – ***"далёкі зрок"***, калі вочы добра бачаць на далёкай адлегласці (кепска – на блізкай). Гэтае слова замацаванае беларускаю навуковаю тэрміналогіяй ў галіне логікі і псіхалогіі і падаецца "Беларуска-расійскім слоўнікам" М. Байкова і С. Некрашэвіча (1926, с.88): "Далёказрочны – дальнозоркий. НТ4"

Другое слова – ***дальназоркі*** – штучнай структуры, перанесенае з расейскай мовы ***дальнозоркий***, дзе гэтаму ***дальний*** адпавядае белар. ***далёкі***; параўнайма: *далёказямельны – дальноземельный, далёкаструменны – дальнеструйный, далёкаўсходні – дальневосточный* ("Беларуска-рускі слоўнік" Т.І. 1988, с. 355). Беларускія слоўнікі 30-80-х гадоў ХХ ст. замацавалі як нарматыўную – лексему ўсесаюзнага стандарту насуперак структурна-сістэмным заканамернасцям беларускай нацыянальнай мовы.

***Павел Сцяцко.***

*Наўздагон Дню горада Менска*

**Сымон БАРЫС**

# Роля Менска ў беларускім адраджэнні канца XX стагоддзя

У гісторыі Беларусі XX ст. адбыліся тры нацыянальныя адраджэнні: 1) нашаніўскі перыяд (1906-1915 гг.); 2) беларусізацыя і карэнізацыя 1920-х гадоў; 3) за пашырэнне выкарыстання мовы і адраджэнне нацыянальнай культуры ў 1988-1996 гг.

Трэцяе беларускае адраджэнне было падрыхтавана беларускімі пісьменнікамі і вучонымі ў папярэдняе дзесяцігоддзе. Прадвеснікамі яго сталі творчая дзейнасць Уладзіміра Караткевіча, Алеся Адамовіча і Васіля Быкава. Іх творы вымушалі беларусаў задумацца аб нашым месцы ў гісторыі.

З вялікай цікавасцю менчукі чыталі ананімную на той час паэму "Лысая гара" (1971 г.). У 2003 г. стала вядома, што яе аўтарам быў Ніл Гілевіч. Важнае значэнне для развіцця нацыянальнай культуры мелі серыйныя выданні: "Беларуская савецкая энцыклапедыя" ў 12 тамах (1969-1975 гг.) і шматтомныя зборнікі фальклору "Беларуская народная творчасць (БНТ)", (1970-1993 гг). Серыя "БНТ" выдавалася Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. Да 1994 г. было надрукавана 42 тамы. Апрача таго 3 зборнікі фальклору выдаў прафесар БДУ паэт Ніл Гілевіч. Абуджэнне цікавасці да мінулага прывяло да стварэння моладзевых клубаў "Нашчадкі" (студэнты Менскага педагагічнага інстытута, 1983-1991 гг.), "Талака", "Майстроўня". Творчыя выступленні Акадэмічнай харавой капэлы Р. Шырмы, Беларускага дзяржаўнага народнага хору (мастацкі кіраўнік Г. Цітовіч), эстраднага ансамбля "Пясняры" (мастацкі кіраўнік У. Мулявін) і харэаграфічнага ансамбля "Хорошкі" (Мастацкі кіраўнік Валянціна Гаявая) абуджалі нацыянальную свядомасць беларускага народа і асабліва моладзі.

У снежні 1976 г. Савет Міністраў БССР прыняў пастанову аб будаўніцтве Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту. Яго будаўніцтва пачалося ў канцы 70-х гадоў у прыгарадзе Менска на беразе р. Пціч. У той час на беразе Свіслачы ў Менску гарадское рамонтна-будаўнічае ўпраўленне аднаўляла Траецкае прадмесце, якое ў канцы 80-х гадоў набыло выгляд старога горада.

Такім чынам, да 1988 г. сталічным уладамі і творчай інтэлігенцыяй была закладзена добрая аснова для аднаўлення і росквіту беларускай культуры. Аднак на той час у Менску не было ніводнай беларускай школы.

Багаслужэнне вялося толькі ў двух праваслаўных храмах: Свята-Духавым кафедральным саборы і Свята-Аляксандра-Неўскай царкве. У сувязі з правядзеннем у Менску Алімпійскіх гульняў у 1980 г. быў занава адкрыты касцёл Узвіжжня святога крыжа на кальварыйскіх могілках. Да того ён выкарыстоўваўся як мастацкія майстэрні.

Беларускае нацыянальнае адраджэнне ў канцы XX ст. непасрэдна звязана з гарбачоўскай перабудовай грамадства і пачаткам галоснасці ў Савецкім Саюзе. Пачатак яму на Беларусі паклалі звароты беларускай творчай інтэлігенцыі сталіцы да Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова – "Пісьмо 28-мі", накіраванае ў Маскву 15 снежня 1986 г. і "Пісьмо 134-х грамадзянаў Беларусі", высланае 4 чэрвеня 1987 г. Першы зварот даў пэўны вынік. З Масквы для вывярэння становішча з беларускай мовай у рэспубліцы прыязджала спецыяльная камісія ЦК КПСС. Аднак толькі пасля XIX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС (чэрвень 1988 г.), якая разгледзела праблемы нацыянальна-культурнага развіцця ў СССР, у Менску змянілася стаўленне кіраўніцтва КПБ да выкарыстання беларускай мовы. Ажыўленню грамадскага жыцця беларускай сталіцы садзейнічала актыўная дзейнасць мастацтвазнаўцы, археолага Зянона Пазьняка, які раскапаў урочышча Курапаты і паведаў усяму свету пра масавыя расстэлы пад Менскам у 1938-1941 гг. Гэта сенсацыйнае паведамленне надрукавала рэдакцыя штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва", галоўным рэдактарам якога быў Анатоль Вярцінскі. У красавіку 1989 г. у гэтай газеце з'явілася рубрыка "Беларускай мове – статус дзяржаўнай". На старонках газеты друкаваліся артыкулы ў абарону беларускай мовы шырокага кола чытачоў – ад пісьменніка да рабочага і калгасніка.

Арганізаваўся Беларускі народны фронт за перабудову "Адраджэньне" (БНФ). Гэта грамадская арганізацыя была ўтворана ў Вільні на Устаноўчым з'ездзе 24-25 чэрвеня 1989 г.

З'езд праводзіўся ў старадаўняй беларускай сталіцы, бо кіраўніцтва ЦК КПБ было супраць утварэння такой арганізацыі. Пасля гэтага ў сталіцы пачалося вялікае супрацьстаянне паміж камуністамі-артадоксамі і дэмакратамі. Дарэчы, дэмакратамі і сябрамі БНФ 27 чэрвеня 1989 г. была створана грамадская арганізацыя Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны (ТБМ). Неўзабаве заявілі аб сваім існаванні Нацыянал-дэмакратычная партыя Беларусі, Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада (БСДГ). Усе гэтыя арганізацыі праявілі асаблівую актыўнасць у адраджэнні беларускай дзяржаўнасці і культуры.

Прыклад у гэтым паказвала сталіца. Менскі гаркам КПБ у 1989 г. склаў "План мерапрыемстваў па пашырэнні сферы ўжывання беларускай мовы, далейшаму развіццю нацыянальна-рускай двухмоўнасці". План уключаў 34 мерапрыемствы, для кожнага былі вызначаны тэрміны і адказныя асобы.

Ён быў надрукаваны 27 чэрвеня 1989 г. у гарадской газеце "Вячэрні Мінск", а затым выдадзены асобнай брашурай накладам 5000 асобнікаў. Кантроль за выкананнем намечаных мерапрыемстваў ускладваўся на ідэалагічную камісію Менскага гаркама КПБ. Яна ж была і адказная, і павінна была не радзей, чым адзін раз у паўгода разглядаць на сваіх пасяджэннях ход выканання гэтых мерапрыемстваў.

Тэрмін іх выканання быў вызначаны – 1989-1991 гг. агульны кантроль за ходам выканання плана мерапрыемстаў ускладаўся на сакратара Менскага гаркама КПБ П. К. Краўчанку, які займаўся ідэалагічнай работай. Паводле плана, прапаноўвалася "з 1991 года работнікам упраўленняў народнай адукацыі і культуры Менгарвыканкама перайсці на выкарыстанне беларускай мовы ў якасці рабочай". У адпаведнасці з рашэннем Міністэрства народнай адукацыі БССР, патрабавалася з верасня 1989 г. увесці выкладанне беларускай мовы ва ўсіх агульнаадукацыйных школах горада з першага класа (адказныя П. П. Кішкурна, Т.І. Драздовіч).

Для пашырэння беларускакай мовы і ўзняццю яе прэстыжу, Міністэрства народнай асветы ўвосень 1987 г. утварыла рэдакцыю часопіса "Беларуская мова і літаратура ў школе", які выдаецца са студзеня 1988 г., а з 1993 г выходзіць пад назвай "Роднае слова".

Са згоды Сакратарыяту ЦК КПБ, 27 чэрвеня 1989 г. арганізавана "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны" (ТБМ).

Старшынём Рэспубліканскай Рады грамадскага аб'яднання ТБМ імя Ф. Скарыны на Ўстаноўчым з'ездзе арганізацыі быў абраны паэт Ніл Гілевіч.

Гілевіч і Пётра Краўчанка былі ініцыятарамі падрыхтоўкі Закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Яго рыхтавала аўтарытэтная камісія з розных устаноў на чале з намеснікам старшыні Савета Міністраў БССР Н. М. Мазай. Закон "Аб мовах у Беларускай ССР" быў прыняты Вярхоўным Саветам БССР 11-га склікання на чатырнаццатай сесіі 26 студзеня 1990 г. У законе абвяшчалася дзяржаўнасць беларускай мовы, адзначалася, што ёй забяспечваюцца ўсебаковае развіццё і функцыянаванне ва ўсіх сферах грамадскага жыцця і пры гэтым дзяржава клапоціцца аб свабодным развіцці і ўжыванні ўсіх нацыянальных моў, якімі карыстаецца насельніцтва Беларусі. Рускай мове адводзілася роля міжнацыянальных зносін. Выкананне закона аб мовах было расцягнута на 10 гадоў.

На той час здавалася многім, што гэта наўмысны доўгі тэрмін, можна было правесці беларусізацыю многіх устаноў і за 5 гадоў. Такім чынам, была створана заканадаўчая база для адраджэння і развіцця беларускай мовы.

У сувязі з прыняцце Закона аб мовах была распрацавана Дзяржаўная праграма развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР, якая была зацверджана 20 верасня 1990 г. аднак склалася так, што той закон не быў выкананы поўнасцю.

На пачатку 1990-х гадоў сапраўды беларуская мова стала шырока ўжывацца ў дзяржаўным справаводстве. І многія чыноўнікі вывучалі мову, бо ў гэтым была неабходнасць.

Важнае значэнне для далейшага развіцця беларускай дзяржаўнасці і культуры мела прыняцце 27 ліпеня 1990 г. Вярхоўным Саветам БССР Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай ССР. У Дэкларацыі адзначалася, што "Беларусь стварае нацыянальную сістэму адукацыі, культуры і інфармацыі". Правал жнівеньскага путчу 1991 г. у Маскве стварыў спрыяльныя ўмовы для атрымання сапраўднага суверэнітэту Беларускай ССР. Увечры 25 жніўня 1991 г. пятая нечарговая сесія Вярхоўнага Савета БССР прыняла закон "Аб наданні статусу канстытуцыйнага закона Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Беларускай ССР аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі" і пастанову "Аб забеспячэнні палітычнай і эканамічнай самастойнасці Беларускай ССР", якімі аб'явіла палітычную і эканамічную незалежнасць Беларускай ССР. З таго дня пачаўся новы этап у гісторыі нашай краіны – этап незалежнай Беларускай дзяржавы. Нацыянальная ідэя беларусаў нарэшце пачала ажыццяўляцца.

На шостай нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета БССР 19 верасня 1991 г. наша дзяржава атрымала новую назву "Рэспубліка Беларусь", а ў скарочаных і састаўных назвах – "Беларусь". У той жа дзень былі зменены дзяржаўныя сімвалы Беларусі. Дзяржаўным сцягам быў зацверджаны нацыянальны бела-чырвона-белы сцяг, а Дзяржаўным гербам – "Пагоня". У сувязі з рэферэндумам 14 траўня 1995 г. была прынята новая дзяржаўная сімволіка, якая існуе цяпер.

Аднак травенскі рэферэндум 1995 г., які юрыдычна ўраўнаваў беларускую і рускую мовы на Беларусі, на самой справе спыніў беларусізацыю. У краіне пачаўся адкат нацыянальнага адраджэння. І для таго было шмат прычын. Узніклі новыя палітычныя ўмовы, пашырыўся эканамічны крызіс.

Аднак у 1988-1996 гг. было зроблена вельмі шмат. Пачалі выходзіць шэрагі беларускіх перыядычных выданняў, з часопісаў дзіцячы – "Вясёлка", літаратурны для моладзі – "Крыніца", "Першацвет", мастацкі - "Мастацтва Беларусі", і гістарычныя – "Спадчына", "Беларуская мінуўшчына", "Беларусі гістарычны часопіс", газеты "Наша слова", "Наша ніва", "Народная газета", "Рэспубліка" і для дзяцей "Раніца".

З 2003 г. выходзіць у свет "Краязнаўчая газета".

Развал Саюза ССР, які стаў мяжой у развіцці беларускай дзяржаўнасці, быў увекавечаны ў замене назваў вуліц і плошчаў нашай сталіцы. 9 снежня 1991 г., на другі дзень пасля падпісання Белавежскіх пагадненняў, плошча каля Дома Ураду атрымала назву Незалежнасці, а вуліца Максіма Горкага перайменавана на Максіма Багдановіча, Ленінскі праспект – на праспект Францішка Скарыны.

У розны час перайменаванне вуліц і плошчаў г. Менска прывяло да знішчэння вялікай колькасці беларускіх назваў, тапонімаў, якія маюць для сталіцы нацыянальна-гістарычнае і моўнае значэнне. З мэтай аднаўлення нацыянальных назваў вуліц і плошчаў па патрабаванні шырокай грамадскасці пры Менскім гарвыканкаме была створана Тапанімічная камісія, у склад якой увайшлі вучоныя і спецыялісты ў розных сферах. Палажэнне аб Тапанімічнай камісіі было распрацавана і зацверджана рашэннем Менскага гарвыканкама № 430 ад 9 снежня 1991 г.

Рэспубліканская Рада Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны стварыла Тэрміналагічную камісію, якую ўзначаліў батанік Я. Стэпановіч. У выніку яе актыўнай дзейнасці былі падрыхтаваны і надрукаваны некалькі тэрміналагічных беларускіх слоўнікаў: вайсковы, тэхнічны, матэматычны, антрапанімічны.

Асноўнай мэтай дзейнасці Тэрміналагічнай камісіі з'яўляецца падрыхтоўка базавай асновы для беларусізацыі працоўнай і вайсковай дзейнасці, а таксама і сямейнага побыту. На беларускай мове выдадзены "Матэматычная энцыклапедыя" (2001 г), трохтомавы "Курс вышэйшай матэматыкі" (1994, 1997, 2003 гг.) для студэнтаў ВНУ.

Пачынаючы з 1991 г. на працягу дзесяці гадоў, у Менску былі перайменаваны 22 вуліцы. Найбольшая колькасць замены назваў адбылася ў 1993, 1997 і 1998 гадах, бо выявілася, што ў горадзе існуе некалькі вуліц, якія маюць адну назву. Ва ўсіх гэтых заменах прасочваецца пэўная мэтанакіраванасць: у 1991 г. – падкрэсліванне нацыянальнай самабытнасці, у 1993 г. – аднаўленне гістарычнай спадчыны сталіцы, а ў 1997-1998 гг. – імкненне ўвекавечыць памяць аб героях вайны і передавіках працы. Новыя назвы атрымалі вуліцы па прозвішчах вядомых удзельнікаў антыфашысцкага падполля (І. Кавалёў), партызанскага руху (Р. Мачульскі), удзельніка апошніх баёў у Берліне 1945 г. (Т. Лук'яновіча), заслужаных будаўнікоў (А. Громава, Л.Чаўлыткі). У 1993 г. былі вернуты гістарычныя назвы вуліц XУIII – XIX стст.: вул. Астроўскага зноў стала Ракаўскай, частка вул. Рэспубліканскай (ад вул. Нямігі да вул. Сухой) атрымала назву Раманаўская слабада, Урыцкага – Гарадскі вал. Вул. Апанскага – Кльварыйская. Гарадскі вал з'яўляецца адметным гістарычным аб'ектам абарончага характару старажытнага Менска. У сувязі з 600-годдзем пасялення татар на землях Беларусі вул. Вілейская ў 1997 г. атрымала новую назву Татарская. Яшчэ раней у тым жа годзе з'явілася на карце горада Брэст-Літоўская вуліца – раней праезд ст. Таварная. На месцы праезда ў канцы XIX – пачатку XX стст. Знаходзіўся Брэст-Лілоўскі вакзал. Такая замена з апорай на гістарычныя факты цалкам апраўдана.

У адраджэнні і станаўленні нацыянальнай свядомасці беларусаў значную ролю адыграла творчая інтэлігенцыя сталіцы, якая групавалася вакол Дома літаратараў і Палаца мастацтваў. У Доме літаратараў рэгулярна праводзіліся літаратурныя вечары, а ў Палацы мастацтваў - выставы беларускіх мастакоў.

*(Заканчэнне на ст. 4.)*





*Наўздагон Дню горада Менска*

**Сымон БАРЫС**

# Роля Менска ў беларускім адраджэнні канца XX стагоддзя

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 3.)*

Вялікі ўклад у адраджэнне гістарычнай памяці зрабілі гісторыкі М. Ткачоў, А. Грыцкевіч, Г. Штыхаў, М. Біч, М. Касцюк, пісьменнікі У. Арлоў, В. Іпатава, Н. Гілевіч, Г. Бураўкін, мастакі А. Шатэрнік, П. Драчоў, А. Марачкін, М. Купава, філолагі З. Санько, П. Сцяцко і іншыя.

У прапагандзе гістарычнага мінулага Беларусі значныя дасягненні мае менскі клуб "Спадчына", які арганізаваў у лютым 1985 г. і ўзначальвае да сёння Анатоль Белы.

20 снежня 1992 г. на першым сходзе беларусаў блізкага замежжа, які праходзіў у Менску ў Доме літаратара, была прынята пастанова аб аднаўленні Жыватворнага Крыжа св. Еўфрасінні Полацкай – духоўнай рэліквіі, аб'ядноўчага сімвала беларускай нацыі. Рашэнне сходу беларусаў блізкага замежжа было падтрымана Мітрапалітам Менскім і Слуцкім, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі Філарэтам. Работы па аднаўленні нацыянальнай святыні пачаліся ў красавіку 1993 г. Варта нагадаць, што значныя грошы на аднаўленне Крыжа даў прадпрымальнік з г. Сургут (Расія) беларус Анатоль Селівончык, за што ён быў узнагароджаны Экзархатам БПЦ ардэнам святога Уладзіміра.

Уладыка Філарэт ахвяраваў на выраб Крыжа з асабістых запасаў 17 залатых манет з выявай на іх цара Мікалая II. Па просьбе Царквы Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь выдзеліў з залатога запасу дзяржавы 1,3 кг золата, неабходнага для работы над копіяй Крыжа.

Агульнымі намаганнямі беларускай грамадскасці, беларускага экзархата і свецкіх беларускіх улад дарагая нацыянальная святыня была адноўлена. Яе зрабіў у 1997 г. берасцейскі майстар Мікалай Пятровіч Кузьміч.

Новы Крыж Еўфрасінні Полацкай, паводле заключэння спецыялістаў – дакладная копія Крыжа, зробленага полацкім майстрам Лазарам Богшам у XII ст. Адноўлены крыж Св. Еўфрасінні Полацкай стаў сімвалам духоўнага адраджэння Беларусі. Уладыка Філарэт 18 верасня 1997 г. беларускую святыню прадставіў Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнку. Пазней майстру М. Кузьмічу была прысуджана прэмія "За духоўнае адраджэнне".

Штогадовая прэмія "За духоўнае адраджэнне" заснавана 5 студзеня 1997 г. указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Устаноўлена пяць штогадовых прэмій за выдатныя творы літаратуры і мастацтва на тэматыку духоўнага адраджэння.

Працэсы нацыянальнага адраджэння, якія пачаліся ў беларускай сталіцы ў 1989-1990 гг., хутка перакінуліся ў іншыя гарады Беларусі і за яе межы – месцы кампактнага пражывання беларусаў. За межамі рэспублікі ўзніклі культурна-асветныя суполкі, якія ў хуткім часе наладзілі сувязь з Рэспубліканскай Радай ТБМ. Беларускія суполкі ўзніклі ў Казахстане, Цвяры і іншых месцах у вайсковых частках Савецкай Арміі. Атрымалася так, што іх арганізатарамі або кіраўнікамі сталі падпалкоўнікі.

Гэта з'ява амаль не даследавана, але ёсць шмат фактаў, якія сведчаць аб тым, што імкненне сталічнай інтэлігенцыі да адраджэння роднай мовы і культуры было падхоплена падпалкоўнікамі ў войску або падпалкоўнікамі запасу.

Іх можна налічыць больш дзесятка. Што дае падставы гаварыць пра "рух падпалкоўнікаў", які існаваў у 1989-1995 гг.

Яркім прыкладам гэтага руху з'яўляецца падпалкоўнік запасу Станіслаў Суднік – рэдактар штотыднёвіка "Наша слова", які выдае ТБМ. У канцы 80-х гадоў ён у Казахстане аб'яднаў афіцэраў-беларусаў і арганізаваў для іх дзяцей нядзельную беларускую школу. Пачаў выдаваць на ратапрынтэ беларускую газету "Рокаш", якую дасылаў у Менск, у тым ліку і ў рэдакцыю "Беларуская мова і літаратура ў школе".

Усе тыя падпалкоўнікі на пачатку 1990-х гадоў аказаліся ў Беларусі, пераважна ў Менску, дзе спатрэбіліся іх энергія і настойлівасць. Яны прынялі ўдзел у стварэнні беларускіх палітычных партый, грамадскіх нацыянальных арганізацый і беларускага войска. Пазней яны стварылі Беларускае згуртаванне вайскоўцаў. Некаторыя падпалкоўнікі запасу ўзначалілі новыя партыі або сталі іх актывістамі ці актывістамі грамадскіх аб'яднанняў (М. Статкевіч, Я. Лугін, А. Станкевіч, Г. Банкевіч, А. Несцяровіч, С. Суднік).

Садзейнічала нацыянальнаму адраджэнню і беларуская дыяспара. 8-10 ліпеня 1993 г. у Менску, у Вялікім тэатры оперы і балета сабраліся прадстаўнікі беларускіх арганізацый на свой Першы з'езд беларусаў свету. Яны ўтварылі міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", суполкі якога цяпер дзейнічаюць у многіх краінах свету.

Важнае значэнне для будаўніцтва беларускай дзяржаўнасці было стварэнне ў 1993-1999 гадах нацыянальнай сістэмы ўзнагарод. Сярод іх асабліва значнымі з'яўляюцца медаль Героя Беларусі, ордэны Айчыны, Воінскай Славы, Францыска Скарыны, Кастуся Каліноўскага і іншыя.

Дасягненні апошняга нацыянальнага адраджэння даволі значныя. Дзякуючы намаганням грамадскасці і дзяржаўных рэспубліканскіх органаў, Беларусь стала незалежнай дзяржавай. Увяла свае нацыянальныя грошы – беларускія рублі, якія атрымалі ў народзе назву "зайчыкі". Стварыла сваю нацыянальную армію – Узброеныя сілы Рэспублікі Беларусь. Былі арганізаваны памежныя войскі, і дзяржаўная граніца Беларусі стала ахоўвацца сваімі пагранічнікамі. Створана мытная служба. Пачалася беларусізацыя дзяржаўных органаў, сістэмы адукацыі і культуры, а таксама міліцыі і Ўзброеных Сілаў. У 1993 г. пасяджэнні сесіі Вярхоўнага савета вяліся на беларускай мове. Беларускія вучоныя і настаўнікі напісалі вучэбныя дапаможнікі па гісторыі Беларусі для сярэдніх школ. У Менску 42 сярэднія школы атрымалі статус беларускіх. Настаўніца-метадыст В. К. Раманцэвіч і вайсковец падпалкоўнік У. М. Танана напісалі і выдалі дапаможнік для вайскоўцаў "Беларуская мова" (Мінск, 1993). Беларускую мову пачалі вывучаць у войску.

На прыканцы 80-х гадоў нефармальныя аб'яднанні "Беларуская майстроўня", "Нашчадкі", "Спадчына", "Талака", адрадзілі ў Менску народныя святы Купалле, Каляды, Масленіцу, Гуканне вясны. У адраджэнне гэтых свят уключыліся работнікі гарадскіх устаноў культуры. У 1990-1995 гадах Купалле святкавала сталічная моладзь амаль у кожным раёне Менска. 19 снежня 19991 г. Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў закон "Аб святочных днях у Рэспубліцы Беларусь". Вялікдзень (першы другі дні), Нараджэнне Хрыстова (першы дзень па праваслаўным і каталіцкім каляндарах), Радаўніца (па праваслаўным календары) і Дзень памяці 2 лістапада, па каталіцкім календары) аб'яўляліся нерабочымі (святочнымі) днямі. Пазней, ў сярэдзіне 1990-х гадоў, другі дзень Вялікадня і па праваслаўным, і па каталіцкім каляндарах сталі рабочымі днямі.

На пачатку 90-х гадоў былі перавыдадзены кнігі адраджэнцаў 20-х гадоў. Пра іх існаванне маладыя людзі нават не ведалі. Кнігі В. Ластоўскага, У. Ігнатоўскага, А. Цвікевіча, М. Доўнар-Запольскага, А. Кіркора, А. Луцкевіча, А. Гаруна, Я. Купалы, А. Смоліча, а таксама факсімільныя выданні кніг Я. Коласа, М. Багдановіча, Я. Купалы, А. Зязюлі, А. Гаруна, Н. Арсенневай, К. Буйло хутка зніклі з полак кнігарняў. Іх раскуплялі. Пісьменнік Барыс Сачанка сабраў і выдаў зборнік паэзіі беларускай эміграцыі "Туга па Радзіме" (Мінск, 1992). Гледачы з цікавасцю ўспрынялі пастаноўку на сцэне Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы спектакля "Тутэйшыя" па аднайменнай п'есе Купалы. Усё гэта садзейнічала абуджэнню гістарычнай памяці беларускага народа.

У сталіцы Беларусі адрадзіліся грамады ўсіх хрысціянскіх плыняў і іншых традыцыйных канфесій (юдзейская і ісламская) Будуюцца цэрквы, малітоўныя дамы і мячэць. Некаторыя культавыя будынкі ўжо адноўлены або пабудаваны. Іх налічваецца 29. Сёння ў Менску вядзецца багаслужэнне ў 13 праваслаўных храмах, 4 касцёлах, 8 пратэстанцкіх храмах і 2 сінагонах.

Улічваючы той факт, што, паводле перапісу 1999 г., каля 80% насельніцтва Беларусі назвалі беларускую мову роднай, Праваслаўная і каталіцкая цэрквы ўсё часцей выкарыстоўваюць у сваёй дзейнасці беларускую мову. Прыклад у гэтым паказвае грэка-каталіцкая царква. Значныя поспехі ў пераводзе богаслужэння на беларускую мову мае і рымска-каталіцкая царква.

"Біблія" выдадзена у 2002 г. ў перакладзе В. Сёмухі і надрукавана тарашкевіцай. Біблейскай камісіяй БПЦ ужо перакладзены на беларускую мову і выдадзены святыя Евангеллі "Ад Марка", "Ад Мацвея", перакладзена "Евангелллле ад Лукі". З 1996 г. штогод выдаюцца беларускія праваслаўныя календары. На беларускай мове надрукаваны тэксты Боскай літургіі. Выдадзеная ў 1999 г. кніга І. А. Чарота "Беларуская мова і Царква", мае на мэце ўвядзенне беларускай мовы ў богаслужэнне ў праваслаўнай царкве. Вядзецца пераклад Бібліі на беларускую мову біскупамі і святарамі Беларускага касцёла, дзе ўтворана Біблейская камісія.

Найбольш паслядоўнымі прыхільднікамі беларускамоўнага богаслужэння паказалі сябе айцец грэка-католікаў Ян Матусевіч (1948-1998), пробашч касцёла св. Сымона і Алены ксёндз – магістар Уладзіслаў Завальнюк, настаяцель Свята-Пятра-Паўлаўскага сабора Георгі Латушка, прасвітар Беларускай евангельскай царквы Эрнст Сабіла.

З 1 верасня 1993 г. Беларуская праваслаўная царква разам з Міністэрствам адукацыі права-дзіць навукова-творчую экспедыцыю "Дарога да святыняў". Праводзіцца ў Дзень беларускага пісьменства. Урачыстасці кожны год бываюць у новым месцы, але ў старадаўнім горадзе Беларусі.

Па прапанове Тапанімічнай камісіі ў Менску захоўваецца старая тапаніміка падчас новага будаўніцтва. І гэта практыка вядзецца недзе з 1970-х гадоў. Дзякуючы гэтаму, мы сёння маем у горадзе мікраёны: Серабранка, Зялёны Луг, Уручча, Шабаны, Курасоўшчына, Сухарава, Чыжоўка, Малінаўка, Кунцаўшчына, Пятроўшчына, Лошыца, Дражня, Бараўляны, Дразды, Сцяпянка, Масюкоўшчына, якія атрымалі назвы былых вёсак на гэтай тэрыторыі. На жаль, замест прыгожых тутэйшых тапонімаў, у сталіцы ёсць мікраёны: Паўднёвы Захад, Паўночны Захад, Усход. Некаторыя назвы урочышчаў навечна ўпісаліся ў тапаніміку беларускай сталіцы: Камароўка, Сляпянка і іншыя. Прыходзіцца толькі шкадаваць, што сёння амаль забытыя назвы такіх мікрараёнаў як Пярэспа, Ляхаўка, Грушаўка і іншыя. Аднаўленне гэтых назваў ёсць захаванне памяці аб мінулым горада і яго тапанімічнай спадчыне. І тыя назвы могуць быць у назве мікраёна або вуліцы, або вялікага ўніверсама ці рынка.

Нацыянальнае адраджэнне беларускага народа, якое часова прыпынілася пасля 1995 г., прадаўжаецца з 1996 г. выходзяць у свет кнігі недзяржаўнага выдавецтва "Беларускі кнігазбор", якое ўжо выдала 26 тамоў. У апошні час парадавалі прыхільнікаў беларушчыны такія кнігі, як "Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы" (2001 г.), "150 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі" (2002 г), "Ілюстраваная гісторыя "Краіна Беларусь" (2003 г.). Завяршана выданне 6-томнай "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі". Ужо надрукавана 17 тамоў і 1-я кніга 18-га тома "Беларускай энцыклапедыі" з 18 запланаваных.

Добраўпарадкоўваецца, абнаўляецца і будуецца Менск. Занава пабудавана за адзін год гарадская ратуша на пл. Свабоды, гадзіннік яой з 14 верасня 2003 г. пачаў адлічваць час жыцця нашай сталіцы.




*Нават самыя небеларускія назвы такія як "Рынак Маскоўскі" ў мікрараёне "Паўднёвы Захад", здараецца, пішуць у Менску па-беларуску.*
***Фота Аляксандра Дзідзевіча, БелТА.***

# Беларускія дажынкі ў Лідзе



Старшыня Лідскага райвыканкаму Андрэй Худык выкупляе дажынкавы жытнёвы вянок за кошык з пачастункамі.



Пераможцы жніва 2004 года з сельскіх гаспадарак Лідскага раёна. Мужчынам і хлопцам надзвычай пасуюць стужкі з надпісам "Пераможца жніва", выкананыя на беларускай мове.



На беларускай мове былі аформлены і многія падворкі гаспадарак, праўда не ўсе. Расцяжкі цераз вуліцу былі напісаны на адным баку па-беларуску, на другім па-расейску.

# "Незвычайны каляндар"




Пад такім назовам пабачыла свет кніга сталага аўтара "Нашага слова", актыўнага сябра ТБМ са Слаўгарада Фелікса Шкірманкова. Яна адрасавана дзецям дашкольнага і малодшага школьнага веку і складаецца з вершаў, прысвечаных кожнаму месяцу года. Кніжка багата ілюстравана мастачкай Аксанай Федарэнка. Наклад выдання — 1000 асобнікаў.

**"Сакавік"**

Адгулялі завірухі,
Адпусцілі маразы,
І са стрэх вісяць каралі,
З вострай дзюбай ледзяшы.
Аглядаюць сад сініцы,
Хеўрай скачуць вераб'і,
А ў хаце, ля бажніцы,
Ачнуялі павукі.
Зайчык сонечны з'явіўся,
Па падлозе праскакаў.
На хвілінку прыпыніўся,
Потым некуды прапаў.
Нібы нехта нецвярозы,
Уначы пяюць каты.
Чырванеюць вербалозы
Па-над рэчкай, ля вады.

Віншуем спадара Фелікса і зычым яму творчага плёну.

# Беларускія кнігі, аўдыё, відэа.

Добрыя беларускія кнігі можна атрымаць у падарунак на менскай сядзібе ТБМ (Румянцава, 13) за падпіску на "Наша слова" ды "Новы час". Тамсама можна прыдбаць беларускае відэа, аўдыё, СД.

Панядзелак - пятніца (12.30 - 18.00).

Пытацца толькі ў Сержука Гуркова (тэл. 8-029-70740001).

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

*Шаноўнае спадарства, сябры ТБМ! Ідзе падпіска на газету ТБМ "Наша слова" на чацвёрты квартал 2004 года. Толькі ў нас вы знойдзеце ўсю інфармацыю па праблемах нашай мовы, нашай нацыі і нашых нацыянальных здабытках ды перспектывах. Толькі ў нас уся інфармацыя пра дзейнасць ТБМ. Толькі на нашых старонках можа выказацца кожны сябар ТБМ.*

*Мы просім усе арганізацыі ТБМ, як мага актыўней, правесці падпіску на газету "Наша слова", падпісаць яе для бібліятэк і школаў сваіх гарадоў і раёнаў. Але асабліва яшчэ раз мы просім, каб кожны сябар ТБМ падпісаўся сам і падпісаў свайго блізкага і знаёмага. Падпіска дасць нам магчымасць прадоўжыць выпуск газеты ў поўным аб'ёме, насычанай самай разнастайнай інфармацыяй па праблемах нашай мовы, нашай Бацькаўшчыны.*

*Будзьце з намі!*

**Ф. СП - 1**

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

На 2004 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету/часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

| Кошт | падпіскі / пераадрасоўкі | 3840 руб. / руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|

На 2004 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

№ 35 (670) 8 ВЕРАСНЯ 2004 г. наша слова

Людміла Дзіцэвіч

# Ірландскі дзённік

*(Працяг. Пач. у пап. нум.)*

**29.06.04 аўторак**

З раніцы едзем у Кіліна-школу, дзе вучыцца дачка Шона Джэніфер. У школе праводзілася свята з нагоды адкрыцця сярэдняй школы.

Тут я і сустрэлася з прэзідэнтам Ірландыі Мэры Маккаліз (Mary McAleese). Для мяне здзіўляльным было тое, што ніхто не дапытваўся папярэдне, хто мы і адкуль. Я ўвогуле трапіла на свята выпадкова. Не ўсе людзі, у тым ліку і я, ведалі, што Прэзідэнт наведае школу.



*У чаканні прэзідэнта*

Спачатку я пабачыла звычайную карціну для свята ў школе — на вуліцы настаўнікі са сваімі дзецьмі, дарэктар з намеснікамі спакойненька стаяць, нешта абмяркоўваюць. Як і ў нас, на свяце прысутнічае прадстаўнік дзяржаўнай улады, якога можна пазнаць па нагрудным знаку. Самотны паліцман гуляе збоку.

Я пачала фатаграфаваць такую прывычную для мяне замалёўку школьнага свята, і тут мяне просяць пахіліцца, бо едзе Прэзідэнт.



*Прэзідэнт едзе*

Я няўцямна аглядваюся і бачу картэж з трох машын, якія пад'язджаюць. Толькі потым я зразумела, што гэта прыехала Прэзідэнт Ірландыі. Аховы было нямнога, чалавекі 2-3, і шмат журналістаў.

Мэры Маккаліз — прыемная жанчына вышэй-сярэдняга росту. Усмешлівая, рухавая, раскаваная. Любіць жартаваць. На пасадзе сваёй яна ўжо другі тэрмін і апошні, бо больш нельга.

Падчас выступлення Прэзідэнт вельмі яскрава гаварыла, як змянілася жыццё ў Ірландыі ў параўнанні з жыццём перыяду яе бацькоў. Успамінала, якія былі школы раней, малявала прыгожую карціну будучыні. Яна дзякавала людзям за працавітасць, спрыянне эканамічнаму і культурнаму росту сваёй краіны.

Ірландцы слухалі вельмі ўважліва, затаіўшы дыханне, але не было ні напружанасці, ні боязі. Людзі жыва рэагавалі на сказанае Прэзідэнтам, то смяяліся, то сур'ёзна разважалі. Я бачыла бліскучыя вочы слухачоў, адчувала іх давер і удзячнасць свайму Прэзідэнту. Між ірландцамі і кіраўніком іх краіны усталявалася тонкая, але моцная духоўная еднасць.

Знаходзячыся ў Ірландыі, я заўважыла, што людзі любяць свайго Прэзідэнта, асабліва жанчыны. Пашана да жанчыны-лідара, відаць, засталася яшчэ з мінулых гадоў, ад папярэдняга Прэзідэнта Ірландыі Мэры Робінсан, якая паспрыяла адраджэнню краіны. Увогуле, у Ірландыі цяпер культ жанчыны. Магутнай застаецца роля жанчыны ў доме. Вельмі многія з іх не працуюць, даглядаюць дзяцей і дом. Многія маюць уласны бізнес пры хаце: выраб мэблі: дзверы, кухні, вокны. рамы; будаўніцтва. Ірландкі вельмі мудрыя—у сям'і яны саступаюць ролю матэрыяльнага лідара мужу, але як магутна яны віюць свае радавыя гнёзды, як самаахвярна шчасліўляць родных цэлым выводкам рудаваценькіх дзетак.



*Прэзідэнт Ірландыі Мэры Маккаліз і Людміла Дзіцэвіч*

Пасля афіцыйнай часткі Прэзідэнт пачала падыходзіць да людзей, вітацца з імі, размаўляць. Я спачатку не адважвалася, але потым. пагаварыўшы з палкоўнікам Торлакам Ёнгам з яе аховы, падышла да Прэзідэнта, расказала пра сябе, пра беларускіх дзяцей. Адчувалася, што яна ведае нашу краіну, яе становішча. Голас у яе мяккі, дружалюбны, гаворыць Мэры шчыра і даверліва. Вочы глядзелі спачувальна, калі я расказвала, што дзеці ў групе маёй у асноўным са школы-інтэрната для дзяцей-сірот.

Мы зрабілі некалькі фотаздымкаў. Палкоўнік Ёнг даў мне адрас рэзідэнцыі, каб я выслала газету з публікацыяй.

Я заўважыла, што не ўсе ірландцы адважваліся падысці да свайго Прэзідэнта. павітацца і пагаварыць з ёй. Потым, калі я расказвала пра сустрэчу, усе здзіўляліся і казалі, што яны ніколі не бачылі свайго Прэзідэнта, і рабілі мне, жартуючы, рэверансы. Адчувалася, што яны шчаслівыя, даючы мне магчымасць пабачыць іх Прэзідэнта. І яшчэ я бачыла гонар ірландцаў за сваю дэмакратычную краіну.

Я пазнаёмілася з дырэктарам і настаўнікамі Кіліна-школы, дала ім нашы газеты.

Вечарам ездзіла ў рэстаран Брыдж-хаўз на вячэру з арганізатарамі. Пола і яе муж Шон запрасілі нас— Шэмеса Грэхана, яго жонку Маргарэт і мяне.

У рэстаране працуе маладая жанчына з Літвы. Яна з мужам і дзецьмі тут ўжо два гады. Хочуць вярнуцца і купіць дом. Зарабляюць сярэдне — у месяц выходзіць каля 2 тысяч еўра на кожнага. Адзін заробак складваюць, а на другі жывуць. Заставацца не хочуць, сумуюць па Радзіме.

Шэмес і Шон, як мужчыны, цікавіліся палітычным і эканамічным становішчам нашай краіны. А я, аказваецца, набыла неблагі запас слоў і магу пагаварыць на любыя тэмы. Яны распытвалі і здзіўляліся, што я гэта ўсё ведаю. Вядома, у Ірландыі жанчына працуе найбольш дома, яна там і лідэр, і бос. Калі я ім расказваю, што я і выкладчык некалькіх універсітэтаў, і журналіст, і рэдактар на тэлестудыі і працую ў 4-х грамадскіх арганізацыях, то яны здзіўляюцца, адкуль я бяру час.

Жанчыны трошкі сумавалі, але Шэмес адпусціў душу. Аказваецца, перакладчыкі ранейшыя нічога ім пра Беларусь не расказвалі. Я тлумачу, што яны гэтага самі не ведалі. У нашай жа палітыцы і эканоміцы чорт галаву скруціць. Адкуль тая 25-гадовая перакладчыца, якая ніколі не чытае газет, будзе ведаць.

Практычна, з размоў вынікала, што мы адсталі ад ірландцаў гадоў на 30-50. Усё, што яны мелі ў жыцці раней, мы маем цяпер. Мне паказвалі дамочкі з саламянымі стрэхамі 100-гадовай даўніны і дамы такія, як цяпер у нас у вёсках. І туалеты ў іх таксама такія былі на дварэ. Яны таксама, кожная сям'я, мелі кавалачак зямлі 6-10 сотак і вырошчвалі неабходнае для жыцця. Пажылыя 60-70 гадовыя людзі памятаюць той час, пагэтаму цяперашнія 2-4 тысячы еўра ў месяц ім здаюцца вялізнымі. Але маладыя ірландцы лічаць такія заробкі малымі і стараюцца пасхаць на працу ў багацейшыя краіны, напрыклад, у Аўстралію. Праўда, гадоў пяць назад спынілася масавая эміграцыя і пошук працы ў другіх краінах, бо Ірландыя значна ўзнялася ў эканоміцы. Дарэчы, тут шмат аўстралійцаў, а ў мяняльнях на першым месцы — аўстралійскія грошы, потым канадскі долар, кіпрыйскія, японскія, мальта, швейцарскія, англійскія фунты, амерыканскі долар.

Маладыя людзі, якія пажаніліся, аддзяляюцца ад бацькоў, бяруць пазыку ў банку, напрыклад 150 тысяч еўра (190 тысяч $) пад 5 % на 25 гадоў, купляюць дом і жывуць, выплочваючы рэнту.

Ірландцы цікава адносяцца да часу. Яны практычна дакладныя, не спазняюцца, але не любяць рабіць рана. Калі мы з дзецьмі куды-небудзь едзем, то звычайна ў 11.00-12.00. Школа пачынае працаваць а дзевятай гадзіне, гэтак сама, як і ўсе офісы.

Ірландцы вельмі ўважлівыя да чалавека. У дамах звычайна на сценах шмат фотаздымкаў сямейных: дзеці з бацькамі, бацькі



*Палкоўнік Торлак Ёнг і Людміла Дзіцэвіч*

бацькоў, дзеці з атэстатам, дзеці з дыпломам. У прыгожых рамачках, фатаграфіі зробленыя ў салоне. У дамах сцены і дывановыя пакрыцці звычайна таго колеру, як любяць жыхары гэтых пакояў. Калі дзеці любяць жывёл, то сцены ўлепленыя фігуркамі сабак, катоў. Хто любіць кветкі — той лепіць кветкі. Увогуле, кветак кругом вельмі шмат. Каля майго дома на вуліцы, на спецыяльных круках, вісяць 19 вазонаў толькі з боку адной сцяны, каля другой — амаль столькі ж. А яшчэ на зямлі мноства. Тут вельмі добрае насенне кветак прадаецца ў краме нават з зямлёй.

*(Працяг у наст. нумары.)*





Мікалай Калінін

# Цыганам у Беларусі кепска

Стаўленне дзяржавы да нацыянальных меншасцяў гаворыць пра становішча з правамі чалавека наогул. Цыганы з'яўляюцца самай шматкольскаснай нацыянальнай меншасцю ў Еўропе. Калісь у Еўропе цыганоў было каля 12 мільёнаў. Зараз гэтая лічба значна ніжэй. Асабліва шмат цыганоў выехала з Чэхіі і Славакіі. На сённяшні момант Чэхія, Славакія і Беларусь - краіны, у якіх самы высокі ўзровень дыскрымінацыі ў адносінах да цыганоў.

Калі разглядзець гістарычны момант з'яўлення цыганоў ва Ўсходняй Еўропе, то становіцца вядома, што гэты народ прыйшоў ва Ўсходнюю Еўропу разам з Асманскай імперыяй. На сённяшні дзень дакладна не вядома, калі і чаму гэты народ пакінуў тэрыторыю сённяшняй мяжы Пакістана і Індыі. Сама тэрыторыя адкуль прыйшлі цыганы мае назву Раджастан. Цыганы, па сваім унутраным складзе, бліжэй да мусульманскіх народаў. Нягледзячы на тое, што цыганы якія зараз жывуць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у асноўным альбо каталікі, альбо праваслаўныя – яны захавалі імя свайго Бога. На жаль, само першапачатковае цыганскае веравызнанне было страчана, але мы памятаем імя свайго Бога. Цікава тое, што не гледзячы на розныя веравызнанні імя Бога ва ўсіх цыганоў аднолькавае. І Ісус, і Алах, і Крышна ў цыганскай мове маюць адну назву - ДЭВЭЛ. Вялікая большасць цыганоў у былой Югаславіі мусульмане па веравызнанні, таму этнічныя і рэлігійныя войны, якія адбыліся ў апошні час ва Ўсходняй Еўропе непасрэдна закранулі і цыганоў. На становішча цыганоў у Славакіі шмат увагі звярталі Еўрапейская Камісія і Еўрапарламент, але не гледзячы на гэта ўлада Славакіі нічога не рабіла, каб палепшыць іх становішча. І некалькі месяцаў таму назад цыганы па ўсёй краіне ўзялі ў рукі зброю і пачалі рабаваць прадуктовыя крамы. Улада Славакіі ўвяла армію ў тыя месцы, дзе цыганы найбольш актыўна пачалі не падпарадкоўвацца ўладам. Такога становішча ў Чэхіі ўдалося пазбегнуць дзякуючы намаганням кіраўніцтва прадстаўніцтва Еўрапейскай Камісіі ў Чэхіі і дзякуючы асабістаму ўмяшальніцтву кіраўніка гэтага прадстаўніцтва спадара Ральфа Дрэйера. Спадар Дрэйер сам патрабаваў змяненняў ад улады Чэшскай Рэспублікі ў адносінах да цыганоў. Менавіта ён зменшыў узровень дыскрымінацыі ў адносінах да цыганоў у Чэхіі. На гэты дзень спадар Дрэйер нацыянальны герой для ўсіх цыганоў у Чэхіі.



Становішча цыганоў у Беларусі не лепш, чым у Чэхіі. Беспрацоўе сярод цыганоў складае 98%. Некалькі гадоў таму беспрацоўе літоўскіх цыганоў было каля гэтай адзнакі, але дзякуючы намаганням кіраўніцтва Літоўскай Рэспублікі гэтая лічба з кожным годам змяншаецца. Не далёка той час, калі пытанне беспрацоўя сярод цыганоў у Літве будзе вырашана. Але гэтае робіцца ў Літоўскай Рэспубліцы. У Рэспубліцы Беларусь на гэты дзень нічога не робіцца дзеля таго, каб знізіць узровень беспрацоўя сярод цыганоў. Камітэт па справах рэлігіі і нацыянальнасцяў дае лічбу ў 93% (лічба беспрацоўных сярод цыганоў). Гэтая лічба добра вядома Камітэту па справах рэлігіі і нацыянальнасцяў не адзін год. Вельмі цікава, чаму нікога з вялікіх чыноўнікаў гэтая лічба не прымусіла ўзяцца за галаву і нешта зрабіць каб зменшыць яе. Дзяржаўныя чыноўнікі тлумачаць такі высокі ўзровень беспрацоўных сярод цыганоў тым, што быццам бы самі цыганы не хочуць працаваць. Не, на самой справе ўсе людзі незалежна ад расы, веравызнання, нацыянальнасці хочуць мець стабільны заробак і быць сацыяльна абароненымі людзьмі. Цыганы ў гэтым сэнсе не выключэнне і ім, як і ўсім астатнім людзям, патрэбныя роўныя правы на працу. У якасці прыкладу дастаткова прывесці Украіну, у якой на сённяшні дзень існуе дзяржаўная праграма па рашэнні праблемы беспрацоўя сярод цыганоў Закарпацця. Калі сустракаешся з кім-небудзь з замежных прадстаўнікоў і даеш ім лічбу беспрацоўных сярод цыганоў — людзі робяць вялізныя вочы і пытаюцца, чаму беларуская дзяржава нічога не робіць для цыганоў у гэтым кірунку. Цяжка патлумачыць людзям, што беларуская дзяржава, наогул, шмат якім найважнейшым праблемам увогуле не ўдзяляе ніякай увагі.

Вельмі нізкі ўзровень адукацыі сярод цыганоў. Прыкладна 85% цыганоў не маюць няпоўнай сярэдняй адукацыі. Цыганы сутыкаюцца з праблемамі падчас атрымання пачатковай адукацыі. На сённяшні дзень у Беларусі няма ні цыганскай школы, ні цыганскага культурнага цэнтра. Безумоўна ў Міністэрстве адукацыі выдатна ведаюць працэнт непісьменных сярод цыганоў, але самае цікавае ў тым, што нікому да гэтага няма справы. Безумоўна праблема неадукаванасці сярод цыганоў існуе яшчэ з савецкіх часоў, але тады яна паступова вырашалася. Стварэнне цыганскай школы дазволіла б значна знізіць узровень неадукаванасці сярод цыганоў. У якасці прыкладу можна прывесці нашага бліжэйшага суседа - Расію, у якой ужо існуе некалькі цыганскіх школ. Беларускія чыноўнікі часта адмаўляюць саму ідэю стварэння цыганскіх школ наогул. Яны тлумачаць адсутнасць цыганскіх школ у Беларусі нежаданнем саміх цыганоў вучыцца і атрымліваць адукацыю. Такія думкі прыходзіцца чуць досыць часта. Між тым у Літве, дзе цыганская школа існуе ўжо не першы год, кіраўніцтвам школы прынятае рашэнне аб будаўніцтве дадатковага корпуса з гае прычыны, што колькасць цыганскіх дзяцей, якія жадаюць навучацца перавышае магчымасці самой школы. Такая ж сітуацыя ў Расіі. Існуе шмат цыганскіх школ, у якіх не хапае месца каб змясціць усіх ахвочых. Вялікая колькасць неадукаваных сярод цыганоў мае прычыну не ў тым, што цыганы наогул не здольныя да адукацыі. Прычына неадукаванасці сярод цыганоў знаходзіцца ў тым, што дзяржаўная палітыка Рэспублікі Беларусь не накіравана на змяненне гэтага становішча.

У Рэспубліцы Беларусь не існуе ніводнага цыганскага культурнага цэнтра. Міністэрства культуры або не ведае пра тое, што цыганы ў прынцыпе вельмі схільныя да музыкі, або ўпарта не жадае гэтага заўважаць. Цыганскі культурны цэнтр надзвычай актыўна працуе ў Расіі. Кожны год цыганскі культурны цэнтр у Маскве ладзіць вялікі фестываль цыганскага мастацтва. Цікава, што правядзенне фестывалю фінансуецца з бюджэту Маскоўскай Мэрыі. У кіраўніцтва расійскай сталіцы вельмі лаяльнае стаўленне да цыганоў і гледзячы па тым з якім размахам праводзіцца фестываль - грошай на культурнае жыццё Лужкоў не шкадуе. Фестываль мае статус міжнароднага і збірае вялікую колькасць людзей з былога Савецкага Саюза. Мяркую, што цыганам і ў сне не прымроіцца, каб цыганскі фестываль у Менску фінансаваўся з бюджэту беларускай сталіцы.

Вельмі цікава тое, што самі кіраўнікі цыганскіх грамадскіх аб'яднанняў не надаюць ніякай увагі становішчу цыганоў. Напрыклад сама Беларуская цыганская дыяспара займаецца толькі тым, што рабуе фонд ахвяр Халакосту. Палова ўсіх цыганоў, якія павінны атрымаць дапамогу як ахвяры фашызму не атрымліваюць яе. Адсюль пытанне да спадара Алега Аляксандравіча Казлоўскага аб тым, куды пайшлі гэтыя грошы? Можа, у А. А. Казлоўскага прачнецца сумленне, а, можа, і не, бо ўжо зараз тры цыганскія сям'і падалі скаргі ў праваахоўныя органы на Беларускую цыганскую дыяспару накont фонду ахвяр Халакосту.

На гэты час у адносінах да цыганоў у Беларусі існуе вельмі вялікі ўзровень дыскрымінацыі па нацыянальнай прыкмеце. Самае цікавае ў тым, што паміж цыганамі і беларусамі вельмі добрыя адносіны. Дыскрымінацыю па нацыянальнай прыкмеце ў адносінах да цыганоў праводзіць толькі дзяржаўная ўлада. Самі цыганы маюць сяброўскія адносіны з беларусамі. Самі беларусы змагаюцца за канстытуцыйнае права выбару мовы навучання ў гарадской мясцовасці. Наогул, усе, хто неабыякавы да беларускай мовы і культуры, маюць падобныя праблемы, што і прадстаўнікі цыганскага народа на Беларусі.

## РЭФЕРЭНДУМУ БАЯЦЦА НЕ ТРЭБА, ЛІЧЫЦЬ ВЯДОМЫ ВУЧОНЫ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ДЗЕЯЧ А.ТРУСАЎ

Менск, 9 верасня. Аб'яўленага рэферэндуму баяцца не трэба, лічыць вядомы беларускі вучоны і грамадска-палітычны дзеяч Алег Трусаў.

У інтэрвію БелаПАН ён зазначыў, што за мінулыя 15 гадоў беларускі народ застаўся народам, хаця перажыў гарбачоўскі рэферэндум і яшчэ два, праведзеныя цяперашнімі ўладамі. "Я думаю, што народ перажыве і чарговы рэферэндум", — сказаў А. Трусаў. Пры гэтым ён зазначыў, што рэферэндум не мае на мэце іншых змяненняў у Канстытуцыю, апрача змянення ў артыкул аб прэзідэнцкім тэрміне кіравання. Пытанне, якое выносіцца на рэферэндум, гучыць проста і канкрэтна. "І гэта вельмі важна для вызначэння пазіцыі кожнага грамадзяніна краіны", — лічыць А. Трусаў.

Ён таксама заўважыў, што на рэферэндум не выносіцца пытанне аб далучэнні да Расеі. "Гэта самае небяспечнае, чаго можна было чакаць. Тым чынам, пакуль Аляксандр Лукашэнка будзе кіраваць краінай, не плануецца ўваходжанне Беларусі ў Расею губерніямі або цалкам", — сказаў А.Трусаў. А гэта азначае, што захаваецца беларуская мова і нацыянальная культура. "Панаваць яны не будуць, але і не памруць", — заўважыў Трусаў, які ўзначальвае грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы".

На думку А.Трусава, аб'яўленне рэферэндуму за два гады да чарговых прэзідэнцкіх выбараў дае час сапраўдным лідарам падрыхтавацца да іх і сказаць сваё слова. "На жаль, нашы лідары хаваюцца за межамі Беларусі, а ў краіне на гэты момант адсутнічае агульнанацыянальны лідар, бо калі б ён быў, то народ мог бы зрабіць выбар на яго карысць", — сказаў А.Трусаў.

Цяперашняя сітуацыя, лічыць ён, дапаможа з'яўленню такога лідара. "Ён павінен быць з народа. Нават седзячы ў турме ў Беларусі, такі чалавек застанецца народным правадыром. Як Нельсан Мандэла, які пасля шматгадовага знаходжання ў зняволенні стаў кіраўніком ПАР", — сказаў А.Трусаў.

Байкот рэферэндуму, на яго думку, сітуацыі не зменіць. "У кожнага з нас ёсць чатыры варыянты — падтрымаць, прагаласаваць супраць, не прыйсці на галасаванне, а таксама прыйсці і забраць з сабою бюлетэнь для падліку. І калі б апошняя сітуацыя набыла масавы характар, у выбарчых камісій звузіліся б магчымасці для фальсіфікацыі вынікаў рэферэндуму", — заўважыў Алег Трусаў.

Такім чынам, на яго думку, апазіцыя мае перавагу перад уладамі, таму што ў апошніх усяго адзін варыянт дзеянняў, у той час як у апазіцыі — тры.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

## БЕЛАРУСКАЯ СЕКЦЫЯ МІЖНАРОДНАГА ТАВАРЫСТВА ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА ЗВЯРНУЛАСЯ Ў МІНАДУКАЦЫІ З ПРОСЬБАЙ АДКРЫЦЬ ШКОЛУ ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ ЦЫГАН У МЕНСКУ

Менск, 9 верасня. Грамадскае аб'яднанне "Беларуская секцыя Міжнароднага таварыства правоў чалавека" звярнулася да міністра адукацыі Аляксандра Радзькова з просьбай разгледзець і станоўча вырашыць пытанне аб адкрыцці ў Менску школы для дзяцей цыганоў.

Як паведаміў БелаПАН старшыня праўлення беларускай секцыі Іван Катляр, свой зварот арганізацыя матывавала палажэннем Канстытуцыі Беларусі, якая прадастаўляе ўсім грамадзянам краіны, незалежна ад полу, расы і нацыянальнасці, роўныя правы ў галіне адукацыі.

"Разам з тым перад намі такі факт: у краіне дзейнічае польская, літоўская, яўрэйская школы, адукацыя ў якіх вядзецца на мове нацыянальнай супольнасці. Цыганскай школы ў Беларусі дагэтуль не існуе. У той жа час, згодна з апошнімі звесткамі, колькасць цыганоў у краіне складае 15—17 тысяч чалавек", — сказаў І. Катляр.

На яго думку, стварэнне агульнаадукацыйнай школы ў Менску, навучанне ў якой вялося б на дзяржаўнай і цыганскай мовах, дазволіла б істотна знізіць высокі ўзровень непісьменнасці сярод цыганоў, а таксама развіваць нацыянальныя традыцыі і звычаі.

Станоўчае вырашэнне пытання аб адкрыцці школы для дзяцей цыганоў стала б пацвярджэннем рэалізацыі прынцыпу аб раўнапраўі ўсіх нацыянальных меншасцяў у плане рэалізацыі магчымасцяў, што прадастаўляюцца Канстытуцыяй і законам "Аб адукацыі", лічыць кіраўніцтва беларускай секцыі Міжнароднага таварыства правоў чалавека.

*Генадзь ШАРЫПКІН, БелаПАН.*

Шатэрнік Усяслаў, магістар філалогіі

# Шараговы Адраджэння. Слова пра прадзеда.

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Але не толькі эрудыцыю, а і спрадвечную беларуска-сялянскую практычнасць выяўляе прадзед. Вось як ён тлумачыць, чаму трэба аддаваць перавагу спевам перад іншымі мастацтвамі ў школьным навучанні. "Высока ацэньваючы з мэтадычнага боку маляванне, ... ўсё-ж такі спробы занятку ў вясковай школе ў апошнія два гады кажуць за немагчымасьць вядзеньня маляваньня –за дарагоўлі паперы й карандаша для вясковаа вучня.

Што датыча лепкі, дык к заняцьню ёю першае, саўсім не падгатаваны мы, вучаныя, а, па-другое, маруда арудаваць у зімовы час з лепнымі матэр'яламі ў адным пакоі, якім карыстаецца і школа, і гаспадар (нагадаем, вяковыя школы мясціліся тады ў сялянскіх хатах. –У.Ш.). Застаюцца спевы".

У гэтых разважаннях пазнаецца сучаснік цяжкіх часоў ваеннага камунізму. Але некаторыя педагічныя заўвагі прадзеда, магчым, будуць актуальныя і цяпер: "Спевы ў школе... не павінны мець сваёю мэтаю зрабіць з вучня спевака ці даць яму найбольшы лік ведаў па... гамах, а развіць у ім слых і пашыраць у ім агульную здольнасць да эстэтычнага любавання прыродаю праз свядомае слуханне гукаў апошняй... гнеўны говар лесу ў час непагоды, заспакойваючае шапаценне лісту ў ціхую пагоду, мэлёдычная пераліvы ручаіны і г.д. -- усё гэта павінна стацца сьвядомую крыніцаю любаванняў для выхаванца ў выніку лекцыяў па спевах... Каштоўны таксама з адукавальнага боку песні гістарычнага зместу".

**"Добры помнік"**

Галоўнай справай прадзеда стаў "Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны".

Гэта быў другі па часе надрукавання, пасля "Краёвага слоўніка Віцебшчыны" М. Каспяровіча, дыялектычны слоўнік выдадзены Камісіяй для ўкладання слоўнікаў жывой беларускай мовы. Як адзначае сам аўтар: "Чэрвенскі краёвы слоўнік зьмяшчае ў сабе словы, якія сустракаюцца ў жывой народнай мове Сьмілавіцкага, Пухавіцкага і пэўнай часьці Шацкага р.., што ўваходзілі раней у склад Чэрвенскага (б. Ігуменскага) павету. У слоўнік ўвайшоў матэр'ял з розных 25 вёсак, галоўным чынам Сьмілавіцкага р., а пераважна з вёскі Старына, мае родзіны... Акрамя звычайных моўных зваротаў словы ілюстраваны народнымі прыказкамі, прыгаворкамі і народнымі параўнаннямі... у слоўнік увайшло таксама досыць і т. зв. ідыётызмаў (мабыць ідыём. – У.Ш.), - спецыяльных беларусіх выразаў ("Ідзі за блізкі свет", "Здацян на ўсе рукі" і інш).

Мэтод збірання слоў у мяне можна сказаць быў адзіны – мае назіранні над мовай. Праўда, трохі матэр'ялу дастаўлена мне і іншымі асобамі, але я заўсёды меў магчымасць праверыць гэты матэр'ял, працуючы ў адзначаных раёнах і ведаючы асаблівасці іх гаворкі".

Як адзначаюць даследчыкі, "Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны" "адрозніваўся... ад "Краёвага слоўніка Віцебшчыны"... як большай паўнатой адлюстравання... мясцовай лексікі, так і большай фанетычнай і семантычнай дакладнасцю яе падачы. Апошняе, відаць, у многім было абумоўлена тым, што ўвесь фактычны матэрыял для яго збіраўся не вясковымі карэспандэнтамі, а самім укладальнікам".

Прадзедава праца не засталася незаўважанай. З рэцэнзіямі на ягоны слоўнік выступілі П. Бузук і М. Каспяровіч. Яны адзначалі важнасць і цікавасць прадзедавай працы. Так, Каспяровіч пісаў, што "яна (праца, -У.Ш) з'яўляецца вельмі карыснай і па паўнаце перавысіла першы краёвы слоўнік (рэдактарам, якога, нагадаю, быў сам Каспяровіч. -- У.Ш.)... сабраны вельмі вялікі слоўнікавы матэр'ял, сярод якога ёсць шмат словаў, якія зоймуць сваё месца ў літаратурнай мове і раней былі ёй невядомы". Сярод крытычных заўваг былі названы недакладнасць асобных перакладаў, перавага аддадзеная выразам з вёскі Старына, а таксама ў стылі часу "адсутнасць клясавага разрэзу" (П. Бузук). Сам Мікола Шатэрнік не лічыў сваю справу завершанай: "Спадзеюся ўсе недахопы, якія заўважу я сам і якія адзначыць крытыка, будуць з часам выпраўлены, бо на гэтым памеры мой слоўнік не спыніцца: я маю сваёю няўхільнай задачаю працу гэту працягваць і папаўняць".

**Апошнія гады**

*"Аж пакуль стральбу адкрылі па нацдэмаўскай мішэні" (К. Крапіва.)*

Намерам прадзеда працягваць мовазнаўчую і адраджэнцкую дзейнасць не наканавана было здзейсніцца. Надыходзілі змрочныя часы барацьбы з нацдэмамі. У 1930 годзе быў арыштаваны неадменны сакратар Акадэміі Навук Беларусі В. Ластоўскі, які санкцыянаваў выданне "Краёвага слоўніка Чэрвеншчыны". Таўро нацдэмаўшчыны лягло на М. Байкова, Б. Эпімах-Шыпілу і нават на А. Чарвякова. Рэпрэсіўны пяратрус перажылі рэдакцыя "Савецкай Беларусі", Беларускае краязнаўчае таварыства, сябрам якога быў прадзед. У такіх умовах не магло быць і гаворкі аб спакойнай працы на карысць беларушчыны. Прадзед перастае выступаць у друку, прынамсі, ягоныя публікацыі за трыццатыя гады не выяўлены.

Можна меркаваць, што ён збіраўся з'ехаць з Беларусі. Дзед успамінаў, што бацька казаў яму і брату: "Паедзем у Крым, хлопцы, вінаграду вам куплю, у моры купацца будзеце".

У выдадзеным летась Л. Мараковым слоўніку рэпрасаваных літаратараў Беларусі паведамляецца, быццам прадзед быў арыштаваны. Сапраўды, такі звычайна і быў лёс беларускіх адраджэнцаў. Па Менску хадзіў анекдот: "Ты – беларус? \Беларус.\ А чаму не арыштаваны?" Пры адсутнасці пэўных звестак, цалкам можна было падумаць, што словы "памёр у 1934" азначаюць "быў рэпрасаваны". На самой справе, прадзед памёр ад сухотаў. Хвароба напаткала яго ў Воршы, дзе ён выкладаў беларускую мову ў мясцовым педтэхнікуме. Прадзеда тэрмінова накіравалі ў менскую бальніцу, дзе ён памёр. 2. 12. 1934 года, і быў пахаваны на Вайсковых могілках. У шасцідзесятыя гады яшчэ можна было бачыць надмагільны камень, цяпер няма і яго. Пасля смерці прадзеда казалі: "Можа і лепш, што памёр". А што можа быць больш трагічным, калі смерць падаецца лепшай за жыццё?

Прадзедавы высілкі, аднак, не прапалі марна. Ягоны "Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны" быў выкарыстаны Антонам Адамовічам і Янкам Станкевічам пры складанні "Маленькага маскоўска-беларускага (крывіцкага) слоўнічка".

Сам слоўнік і жыццё яго складальніка даследаваў І. Германовіч, працай прадзеда цікавіўся Фд. Янкоўскі. Я выказваю падзяку ўсім гэтым аўтарам і спадзяюся, што мой нарыс стане яшчэ адным пдмуркам для падтрымкі памяці аб маім продку, бо ён варты таго.

*Шляхамі дзядоў*

# Лясы, азёры, родны край

"Куток, дзе нарадзіўся чалавек, - самы дарагі і найпрыгажэйшы ў свеце", - пацвердзіў вядомую сапраўду выкладчык гісторыі з Лужаснянскага інтарната-гімназіі для таленавітай моладзі, што пад Віцебскам. Таму і клумбачкі ля школы – у вясёлых кветках, і кожны помнік прыроды, нават вырасшыя разам дрэвы, клапатліва даглядаюцца.

Недалёка ад Віцебска, у 5 кіламетрах, цягнецца ўздоўж магутнай Дзвіны і патанае ў зелені вёсачка Лужасна.

Першыя звесткі аб мястэчку адносяцца да 1812 года, паселішча ўзгадваецца на карце Пахлавіцкага. Захаваўся тут будынак старажытнай Свята-Узвіжанскай царквы, а ў 1908 годзе быў узведзены вялікі храм у гонар Ушэсця Гасподняга.

У 1909 годзе пабудавана сельскагаспадарчая (ільнаводчая) школа, на якую народ збіраў грошы, ад кожнага двара па 20 капеек. Да будаўніцтва сельскагаспадарчай школы дачыніўся і мой прадзед Карл Іванавіч. Ен і два яго сыны ўваходзілі ў склад будаўнічай брыгады, якая была вядома добрай працай ў даваенным Віцебску. Пасля школа стала тэхнікумам. Ён існуе і зараз, гэта сельскагаспадарчы тэхнікум імя Сурганава, а старэйшы будынак яго (корпус механізацыі) захаваўся да сённяшняга часу. Таму і захацелася наведаць і пабачыць гэтыя мясціны.

Сёння ў Лужасне знаходзіцца знакамітая Школа-гімназія для адораных дзяцей з малазабяспечаных сямей Віцебскай вобласці. Тут вучацца і жывуць найбольш таленавітыя і здольныя дзеці з Віцебшчыны. Яны навучаюцца ў профільных класах: матэматычным, фізічным, гуманітарных: з паглыбленнем веданнем замежных моў, гістарычным, біялагічным. Восем год працуе гімназія. Кіруе ёй дырэктар Уладзімір Уладзіміравіч Шыцько, які стварыў у школе моцны педагагічны калектыў. У выніку паглыбленнага вывучэння прадметаў усе дзеці паступаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы ў Віцебску, Менску, Пецярбурзе і іншых гарадах.

Раней на месцы гімназіі размяшчаўся інтарнат для дзяцей з парушэннямі мовы. Міхась Лынькоў запавятаў сваю маёмасць аднаму з дамоў для сірот на Віцебшчыне. Гэтыя сродкі былі перададзены Лужаснянскаму інтарнату. Пасля інтарнат пераехаў у іншае месца, на яго месца перасялілася гімназія, і вуліца на якой зараз яна знаходзіцца, заўсёды будзе насіць імя Міхася Лынькова.

Здольныя дзеці жывуць тут і навучаюцца сярод прыроды. У далечыні ад гарадскога шуму і вэрхалу яны маюць магчымасць спакойна паглыбіцца ў спасцігненне таямніц сусвету, у саміх сябе, у свой унутраны свет.

Побач нясе велічныя воды старажытная Дзвіна, узвышаюцца магутныя верхавіны сасновага лесу, стрэлы асакі над вадой хаваюць блакітных стракозак. А колькі тут разнастайнай, духмянай расліннасці! Пасядзеўшы на беразе каля вады, напэўна, захочацца стаць біёлагам ці эколагам.

Цудоўныя здымкі прыроды, зробленныя ў навакольных мясцінах, паказалі мне ўдзельнікі турыстычна-краязнаўчага клуба "Дзвіна", які існуе пры школе-гімназіі для адораных дзяцей. Узначальвае працу ў клубе малады, але вядомы на Беларусі, выкладчык гісторыі Мікалай Васілевіч Півавар.

Навучэнцы часта ходзяць з настаўнікам у паходы, а ён яшчэ ў вольны час падарожнічае па рэках на байдарцы. Адтуль, з патаемных цудоўных куткоў лягчэй прыгледзець рознакаляровыя кветкі, птушак, матылькоў, жывёлак. Такі падыход да вывучэння гісторыі роднага краю найбольш надзейны і выклікае цікавасць у вучняў.

Таксама дапамагае весьці даследчую працу выкладчыца біялогіі, якая добра ведае выгляд і назвы рэдкіх раслін і жывёл, занесеных у Чырвоную кнігу.

Прыемна было вучням і настаўнікам сустракаць летась у клубе вядомага навукоўца, аўтара падручнікаў і манаграфіі па гісторыі, прафесара Георгія Васілевіча Штыхава, які наведаў гімназію.

Клуб "Дзвіна" ўдзельнічае і ў распрацоўках Міжнародных праектаў Менскага Рэспубліканскага экалагічнага цэнтра моладзі. Вучні з краязнаўчага клуба "Дзвіна" кожны летні сезон, кожны месяц робяць самастойныя адкрыцці з гісторыі помнікаў прыроды і культуры Віцебшчыны.

Бывалі яны і на возеры Лосвіда, даведаліся пра знакамітую "Напалеонаўскую дарогу".

Лосвіда – адно з найвялікшых азёраў Беларусі. Яго глыбіня ў паўднёва-ўсходняй частцы – больш за 20 метраў. Але на Напалеонаўскай дарозе" глыбіня вады не вышэй калена. Назвай сваёй дарога абавязана французскаму імператару, які, згодна з легендай, у 1812 годзе быў акружаны каля возера рускай арміяй. Каб выратавацца ад гібелі, кожны французскі жаўнер, набраўшы поўную шапку зямлі, высыпаў яе ў возера. У выніку ў гэтым месцы ўтварылася падводная дарога, па якой французы змаглі адарвацца ад рускай арміі.. Ёсць меркаванне археолагаў, што гэтае месца можа датавацца значна больш старажытнымі часамі.

Наведвалі юнакі і дзяўчаты і замак у Смалянах. Бачылі яны Вялікі камень, што знаходзіцца ў весцы Гараватка Шумілінскага раёна і іншыя цікавыя рэчы.

Былі ў мястэчку Мазалава, адкуль паходзіў Ігнат Манькоўскі, які з'яўляецца аўтарам "Энеіды навыварат". Тут захаваўся перададзены яму імператарам Паўлам маёнтак "Мілае" і стары млын. Тут пачулі вучні рамантычны аповяд аб Ігнаціі Манькоўскім і яго каханай.

Распавялі мне і пра дэндрапарк, маленькі батанічны сад, які знаходзіцца недалёка ад гімназіі на беразе Дзвіны. Парк быў закладзены у гонар 30-годдзя вызвалення Віцебска ў 1974 годдзе і набыў статус мясцовага помніка прыроды, дзякуючы намаганням біёлага Мікалая Трафімавіча Ражкова. У Лужаснянскім дэндрапарку ёсць 250 відаў раслін. Гэта рэдкія пароды дрэў: кедры, белая піхта, бархат амурскі, маньчжурскі арэх, 3 віды дубоў, 9 відаў арэхаў і іншыя.

Недалёка ад гімназіі знаходзіцца ў Лужасне праваслаўная царква ў імя Ўшэсця Гасподняга, якая была пабудавана у 1908 годзе. У савецкі час яна была зачынена, а у 1992 – вернута вернікам, адрамантавана і адноўлена ў 1994 годзе, дзякуючы настойнай працы настаяцеля айца Міхаіла і жыхароў вёскі. Вельмі старанныя прыхажанкі Таццяна Кірылаўна і Валянціна Іванаўна зрабілі прыгожы палісаднік з ружамі ля будынка царквы з чырвона-белай цэглы. Дарэчы, унук Таццяны Кірылаўны, выпускнік гімназіі, у леташнім годзе паступіў у Пецербурскі ўніверсітэт.

У прытворы царквы можна ўбачыць творчыя працы дзяцей, якія наведваюць нядзельную школу: Рамаоўскай Дар'і, Осіпавай Людмілы, Собалева Ілліі.

Сонечныя сасновыя бары, пясчаныя сцяжынкі, сунічныя паляны, блакітныя азёры парослыя лілеямі, пакінулі лагоднае пачуццё ў сэрцы. "Бо немагчыма з гэтым краем развітацца..."

***Э. Оліна, г. Менск..***





# Краса і сіла беларускіх палёў




CLAAS



BIZON



NEWGOLLAND



ПАЛЕССЕ



ЛІДА



JAGUAR

Гэтыя збожжаўборачныя і кормаўборачныя камбайны прыйшлі на дажынкі з лідскіх палеткаў, дзе яны паспяхова выканалі тую работу, для якой былі створаны. Разам з амерыканскімі, нямецкімі, галандскімі камбайнамі паспяхова працавалі і беларускія, вытворчасці заводаў "Лідааграпраммаш" і "Гомсельмаш".

Гледзячы на ўсё гэта думалася, што толькі для таго, каб убачыць такія машыны на беларускіх палях, трэбала разваліць Савецкі Саюз, у якім дабітыя СК выдаваліся за цуда тэхнікі, і прасвету не было відно.

***Яраслаў Грынкевіч.***

*Станіслаў Суднік*

# З БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ ПА ЖЫЦЦІ

*(Праціяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Другі выпадак адбыўся праз паўгода, зімой 1967 года ў Чырвонай Слабадзе Салігорскага раёна. Жаніўся Слава Васілеўскі. Сам з Беразіна, а браў дзяўчыну з Чырвонай Слабады. Гулялі вяселле ўжо па-нашаму, у два заходы. Адны выхадныя ў маладой, другія – у маладога. Так робіцца, калі маладыя далёка жывуць.

Ну Слабада - лічы горад. Вяселле павялі парускy. Падпілі, пачалі спяваць расейскія песні. Тут душа не вынесла. Падбіў некалькі суседзяў і заспявалі па-беларуску. Нажаль, трэба сказаць праўду, моладзь не ведала нічога, акрамя рэпертуару "Песняроў", які ў 1976 годзе і сам па сабе яшчэ быў не надта багаты. І селі б мы ў лужыну з сваёй беларускасцю, каб не прыйшлі на падмогу пажылыя кабеты. Загучалі "Цячэ вада ў ярок", "Зялёная вішня", "Ляцелі гусі з броду" і г.д. Усё такі, як ні кажы, Чырвоная Слабада – гэта колішняя Вызна – адзін з цэнтраў Слуцкага збройнага чыну, і як на сённяшні розум, то мне падаецца, што яны пра той чын памяталі. Мая беларускасць настолькі спадабалася дзядзьку маладой, што той не адыходзіўся, потым забраў да сябе начаваць, дзе мы яшчэ паўночы гаварылі. А праз тыдзень у Беразіно гэты дзядзька не даваў пачаць вяселле, пакуль не прыйшоў апошні аўтобус, і ён не пераканаўся, што Стась не прыехаў. Гэта было на зімовых вакацыях, якія самі па сабе кароткія, і мне ўжо трэба было ехаць у Менск, было не да вяселля. Маладому то можна было прыпазніцца на дзень які, ну а мне то не выпадала.

Дык вось і ў Чырвонай Слабадзе адбыўся выпадак падобны на віцебскі. Пасля спробы беларусізацыі вяселля, колькі той Слабады, мігам разнеслася чутка, што прыехаў курсант, які размаўляе толькі па-беларуску. Хата маладой была далекавата ад клуба, але танцавалі ўсяроўна ў клубе, ці можа ў іх Дом культуры. Закончваўся недзе другі танцавальны "сеанс", збіраліся ісці ізноў за сталы. Знаёмыя недзе падзяваліся і я выйшаў з клуба адзін, ды, мабыць, не праз тыя здверы. Крышку адышоў, арыентуючыся на трэбны кірунак, аж тут трое: "Што, курсанцік, папаўся? Зараз будзем біць" "Ну і за што, што я вам зрабіў?" І раптам адзін крычыць: "Стой, хлопцы, гэта ж братка-беларус. Пайшлі, мы табе каранейшую дарогу пакажам". Канфлікт быў вычарпаны. Беларусаў у Вызне не б'юць.

Трэба згадаць, што не вывучыўшы польскай мовы ў школе, я не пакідаў гэтай ідэі ў Менску. Чамусьці мне падавалася, што гэта патрэбна, і яшчэ я быў упэўнены, што будзе гэта не цяжка. У Менску мне ўдалося набыць саманавучальнік з пласцінкамі (у Сейлавічах сказалі б "з плытамі"). Справа была за прайгравальнікам. Свайго курсант 1-га ці 2-га курса мець не мог. Але тут зноў на дапамогу прыйшло ўсемагутнае ў войску земляцтва. Старшынём старэйшага на адзін год курса нашага ж факультэта быў Мар'ян Грынявіцкі з Нясвіжа. А як згадаць, што мая прабабка ўраджоная Грынявіцкая, то ў нашых варунках такі зямляк – лічы сваяк. У іх на курсе быў прайгравальнік. У вольны час я забіраўся ў іхнюю капцёрку (а іхні курс жыў, на паверх вышэй за наш) і вучыў польскую мову. Праўда цягнулася гэта не доўга. Наўзабаве я закінуў падручнік, накупіў сабе ў краме "Дружба" што месцілася, здаецца, на плошчы Калініна, раманаў Крашэўскага і пачаў спалучаць прыемнае з карысным. Але першай польскай кнігай, якую я адалеў быў усё-такі "Пан Тадэвуш", Шыкарнае выданне ў скуранай вокладцы, коштам у 5 рублёў і яшчэ 4 капейкі, пры "стыпендыі" курсанта 1-га курса –8 руб. 30 кап., а 2-га курса – 10 руб. 80 кап.

Што тычыцца раманаў Крашэўскага, то гэта было акно ў мінулае. Гістарычнай мастацкай літаратуры ў той час, наогул, было не шмат. А беларуская гістарычная мастацкая літаратура замыкалася, фактычна, на асобе Уладзіміра Караткевіча. Таму раманы Крашэўскага, якія прадаваліся ў палатняным пераплёце з залатым дубовым лістом на пярэдняй бачыне вокладкі, давалі разуменне таго, што на гісторыю можна глядзець з розных бакоў. Тым больш, што ў тыя часы кніжнага дэфіцыту значна лягчэй было купіць кнігу на замежнай мове, чым па рускай, а на беларускую, наогул кічога ніхто не пераkладаў. З цяжкасцю даставалі Дзюма, Друёна, Скота. Рускія пераклады Сянкевіча з'явіліся на паліцах, мабыць, у 80-я гады. Таму "Час быка" Яфрэмава я прачытаў у свой час на балгарскай мове, а "Людзі, як богі" Снегава – на нямецкай. Такі быў час. Раман Караткевіча "Нельга забыць", як мне казалі выйшаў на 15 мовах, на беларускай было толькі 16-е выданне.

У навучальні на працягу пяці гадоў я ўпарта вучыў і нямецкую мову. У той час, калі ўсе закончылі гэты прадмет на 3-м курсе, я і яшчэ два чалавекі вучылі нямецкую мову ўсе пяць гадоў і ў канцы атрымалі дыпломы вайсковых перакладчыкаў з правам самастойнай працы, а таксама паздавалі кандыдацкія мінімумы, на ўсякі выпадак. Ужо ў Лідзе, застаўшыся без працы, ледзь не ўладкаваўся настаўнікам нямецкай мовы ў вясковую школу, але нешта ў іх не склалася, і давялося выкладаць стэнаграфію ды выдаваць "Наша слова".

У гарадах тады было цяжка сустрэць чалавека, які размаўляў бы па-беларуску. А калі такі чалавек сустракаўся, то гэта была з'ява ў жыцці.

Яшчэ са школы, пазнаёміўшыся на раённай алімпіядзе па матэматыцы ў 1971 годзе, я іду па жыцці не разам, але поруч з Люсяй Майсеняй (Людміла Іосіфаўна Майсеня, кандыдат фізіка-матэматычных навук, адзін з аўтараў Беларускай матэматычнай энцыклапедыі, 3-х томавага падручніка "Курс вышэйшай матэматыка" на беларускай мове і інш.)

Мы ў свой час перапісваліся, сядзі-тады сустракаліся, гаварылі пра творчасць У. Караткевіча, хадзілі на "Песняроў", але, галоўнае, я заўсёды меў адчуванне, што недзе побач ёсць чалавек, які думае пра Беларусь так жа, як і я. Таму не маюць рацыі тыя, хто лічыць, што Людміла Майсеня прыйшла да беларускасці на хвалі адраджэння. Яна з гэтай беларускасцю была з маленства, якое прайшло на такой беларускай Нясвіжчыне. Мова беларуская для яе была сапраўды роднай, маці была настаўніцай беларускай мовы, а бацька ў 40-выя быў рэпрэсаваны з абвінавачваннем у беларускім нацыяналізме. На допытах яму ў віну пабач з іншым ставілі веданне на памяць "Пагоні" М. Багдановіча.

У 1976 годзе ў Слуцку мне надарыўся на жыццёвым шляху Уладзімір Іванавіч. Ён працаваў простым шафёрам, у вольны час іграў у народным тэатры. Расейскую мову не прызнаваў, хоць жаніўся на сібірачцы.

У тым жа 1976 годзе мне ўдалося натрапіць на беларускамоўны асяродак у Менску.

На 4-м курсе ў нас быў ужо вольны выхад у горад. Я часта бываў у цэнтральнай кнігарні. У беларускай секцыі прадаўцом тады працавала паэтэса Святлана Каробкіна. Аднойчы я пачуў, як яна размаўляе з нейкім хлопцам па-беларуску. Дачакаўшыся покуль ён пойдзе, я папытаўся ў Святланы: "Гэта мусіць нейкі пісьменнік?". "Ды не, -кажа, - гэта просты хлопец Алесь Міткавец з Гомеля." Я спытаў ці няма яго адрасу. Адрас быў. Я яму напісаў. Неяк змовіліся і сустрэліся ў Менску. Як аказалася, яго тады выключылі з БДУ, прынцыпова паставіўшы на сесіі "двойкі" па беларускай мове, беларускай літаратуры ды гісторыі і на здзек "пяцёрку" па педагогіцы. У Алеся ў Менску жыла сястра Ён наязджаў часцяком, і мы сустракаліся не адзін раз. Алесь пазнаёміў мяне са студэнтамі універсітэта Ігарам Чарняўскім і Міколам Мікалаевым. У іх я ўпершыню пачуў "Сказ пра Лысую гару" і ўпершыню ўбачыў "Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі" Ластоўскага, якую яны хавалі на дне валізкі, а валізку пад ложкам. У іх я бываў часта. Сёння гэта відныя асобы, а тады былі простыя хлопцы. Памятаю, як мы наважыліся пайсці ў госці да Алеся Разанава. Купілі бутэльку добрага віна і падаліся, здаецца, без папяраджання. У Разанава быў "пагром". Ён саргаваў сваю бліятэку, мабыць пасля пераезду найкага, кнігі ляжалі суцэльнай гарой на падлозе вялікага пакоя, а ён хадзіў вакол іх і, мабыць, спадзяваўся нешта знайсці.

Пасядзелі, пагаварылі і найшлі. У нас не хапіла смеласці прапанаваць спадару Алесю зрабіць па чарцы. Не адважыліся.

У БДУ тады кволай сцяблінкай беларускасці прарастала насценная газета "Мілавіца". Хлопцы казалі, што змясцілі ў ёй адзін з маіх вершаў.

Юнацкае сяброўства моцнае. Менавіта на Міткаўца і Чарняўскага я абапёрся у 1988 годзе, калі мы пачыналі беларускі рух у Казахстане і Цвяры. Менавіта ад Ігара я павёз у Казахстан першую адраджэнцкую літаратуру і першую касету з песнямі Сокалава-Воюша.

І яшчэ адзін чалавек пакінуў у тыя часы глыбокі след у маёй свядомасці. Гэта Фёдар Янкоўскі.

Недзе ў тыя гады пачалі выходзіць яго кніжкі. Першай, здаецца, была "Абразкі". Я яе купіў у Салігорску, чытаў на вакзале ў Капылі і ў голас смяяўся. Людзі, мабыць, аглядаліся. Абразак пра Знайду: "Прычакала Знайда помачы, сама ляжыць, а дзеткі брэшуць", - быў нібы ў Сейлавічах спісаны. У маёй бабці калісьці была сучка, якую так і звалі "Знайда", і пра якую часта згадвалі.

Разам з тым абразкі Янкоўскага выклікалі не столькі смех, колькі клопат пра мову. Пазней я пісаў яму, недзе маю колькі лістоў у адказ, збіраўся адведаць. Адзін раз, прыехаўшы ўжо, здаецца, з Казахстана хацеў зайсці да яго, але паблытаўшыся па Менску, змарнаваў час і не знайшоў патрэбнага дома. А неўзабаве ён памёр.

Гаворачы пра жыццё ў Менску нельга абмінуць і мае паэтычныя практыкаванні. Вершы я пісаў можа з класа 2-га, але, мабыць, слабыя, бо ніхто іх не друкаваў. Праўда ў 1972 годзе на конкурсе да 90-годдзя з дня народзінаў Я. Купалы і Я. Коласа мой верш "У адказ на верш "Арлянятам" выйшаў пераможцам у раёне і яшчэ недзе перамог, мабыць у вобласці.

Пісаў вершы і ў навучальні, некалькі разоў наведаў літаб'яднанне пры газеце "Во славу Родины", але там я быў чужы. Першы мой верш "Касцёр" быў надрукаваны ў Капыльскай раённай газеце "Слава працы" за 13 ліпеня 1976 года. У той час мая творчасць пачала збочваць з агульналірычнага кірунку на нацыянальны. Тут ізноў трэба згадаць усеагульны ўплыў "Песняроў". Мы ганяліся за білетамі на іх канцэрты, даведаліся пра гастролі "Песняроў" у ЗША. Каб паслухаць канцэрт са Штатаў, які трансляваў "Голас Амерыкі", дасталі моцны прыёмнік, за дзень да канцэрта настроіліся. У дзень канцэрта, позна вечарам уключыліся, паспелі пачуць інтэрвію Мулявіна, па-беларуску дарэчы, але, як кажуць, не на тых нарваліся. Загучалі першыя акорды першай песні і... ўключыліся савецкія глушылкі. Ні адной песні паслухаць не далі.

Пад уплывам "Песняроў", я напісаў верш:

***Пастаўце помнік***
***"Песнярам",***
***Як ставілі вялікім людзям***
***Ці за свабоду змагарам,***
***Ды толькі хай***
***іначым будзе,***

***Хай непадобным будзе ён***
***Да помнікаў вякоў далёкіх,***
***Хай будзе лёгкім, нібы сон,***
***Нібы сасонка ў пушчы***
***стромкім.***

***А на вяршыні хай яго***
***Гучаць чароўныя цымбалы,***
***І ў даваршэння да ўсяго***
***Гурба музык стаіць удалых.***

***Пастаўце помнік гэты там,***
***Дзе больш за ўсё***
***людзей бывае,***
***Адкрыты будзе хай вятрам,***
***Хай першым сонца ён вітае.***

***Каб людзі проста перад ім,***
***Стрымаўшы крок***
***у задуменні,***
***Амаль што стаць ужо зусім***
***Былі гатовы на калені***

***За тое, што сваёй зямлі***
***Яны шчэ не зракліся мовы,***
***А пад нябёсы паднялі***
***І кожны гук яе і слова,***

***За тыя песні, што ў дзядоў***
***Узяўшы, спелі нам сягоння,***
***За звон вясновы жаўрукоў,***
***Якім іх струны***
***нам гамоняць...***

***Пастаўце помнік***
***"Песнярам",***
***Як ставілі вялікім людзям...***

Я паслаў гэты верш у некалькі выданняў, але ўсюды яго скрытыкавалі, як недасканалы.



*У Вязынцы. Восень 1975 ці вясна 1976 года.*

*Станіслаў Суднік*

# З БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ ПА ЖЫЦЦІ

Тады ж пад уплывам першых савецкіх зонг-опер "Арфей і Эўрыдзіка", "Авось" і "Юнона" я пачаў пісаць лібрэта да беларускай зонг-оперы "Лесаўчыкі", дакладна ведаючы, што ніколі такой оперы не будзе. Савецкая ўлада падавалася вечнай, а нават маёй гістарычнай самаадукацыі хапала, каб зразумець, што пад назвай "лесаўчыкі" Уладзімір Караткевіч і Павел Марціновіч геніяльна хавалі ненавісных для Расеі "лісоўчыкаў". Захавалася каля дзесятка зонгаў (песень) з тога твору, за якія абсалютна не сорамна і зараз, хаця ў самім творы на галоўную ролю заміж Максіма Крываноса трэба выводзіць радзівілаўскага шляхціца "злога лютараніна пана Аляксандра Лісоўскага", які па адной з версій быў родам з нашых мясцін. Прынамсі, Лісоўскія жылі там зусім нядаўна.

Як выгадна ведаць беларускую мову, паказала і стажыроўка на Украіне, каля Жданава, зараз, Марыупаль.

Мы стажыраваліся ў зенітна-ракетным дывізіёне. Пры такіх стажыроўках часта мелі месца канфлікты паміж салдатамі і курсантамі. Мы прыехалі ў абед. Вечарам да мяне падходзяць мясцовыя сяржант і салдат: " Выйдзем, пагаворым." Ну выйшлі... "Хто? Адкуль?"

Аказалася, адзін літовец, адзін паляк з Літвы, "дзяды", г.зн. адслужылі 1,5 гады. "Так, Стась! Калі хоць нешта не так, скажы нам"

Увесь час стажыроўкі прайшоў у поўным спакоі. Ні іхнія афіцэры, ні нашыя так і не даведаліся, чаму на гэты раз усё было так гладка і ціха.

У канцы стажыроўкі, калі пачалі збірацца дадому, узнікла ідэя дапоўніць сухі паёк, які выдавалі на дарогу, мясцовымі прадуктамі. На той час на калгасным полі побач з дывізіёнам былі гуркі. Можна было нарваць тых гуркоў і так, але ж без пяці хвілін афіцэры, вырашылі папрасіць у вартаўніка. Хто будзе гаварыць. Украінскай не ведае ніхто. "Давай, Стась, па-беларуску." "Давайце." "Дзядуля, ці можна ў вас трошкі гурочкаў нарваць?" "Рвіце сыночкі, колькі трэба". Мабыць таму дзядку пад Ждановам вялікай розніцы між беларускай і ўкраінскай мовамі не было.

Падчас гэтай стажыроўкі я яшчэ раз пераканаўся, якая вялікая сіла зямляцтва, як выгадна ва ўсіх адносінах быць прадстаўніком сваёй зямлі і свайго народу. Калі раней у мяне у навучальні быў адзін зямляк – Мар'ян Грынявіцкі з Нясвіжа, а потым паступіў Коля Янцэвіч з Затур'і, то ў Жданаве землякамі сталі нават літоўцы. На наступнай стажыроўцы ў Карэліі за земляка мяне лічылі ўжо ўкраінцы, дзе з іхняга боку мне зноў жа была гарантаваная падтрымка ва ўсім, асабліва, калі ўлічыць, што камбат там быў зноў жа беларус.

На стажыроўцы ў Карэліі мне пашанцавала падвучыць украінскую мову. Выйшла нейкая блытаніна з дакументамі, і я два тыдні лежма ляжаў у кватэры афіцэраў – халасцякоў. Там было шмат пустых бутэлек і адзіная кніга "Кабзар". Вось гэтага "Кабзара" я два тыдні і чытаў. Дык і хапіла.

Пасля заканчэння навучальні я быў размеркаваны на Урал і трапіў у зенітна-ракетны дывізіён у г. Верхні-Тагіл. Да мяне ў гэтым дывізіёне быў адзін беларус – малодшы сяржант Ярашэвіч. Сяржант быў крайне баявы. Малодшым сяржантам станавіўся два разы, у адпачынак з'ездзіў два разы, пры тым, што ў Савецкай Арміі магчыма было з'ездзіць у адпачынак толькі раз.

У дывізіёне мяне сустрэлі не проста, як лейтэнанта – інжынера Судніка, а як паўнамоцнага прадстаўніка ўсяго беларускага народа з усёй станоўчай і адмоўнай аўрай, якую мелі беларусы ў Савецкім Саюзе. Само сабой разумелася, што новы лейтэнант павінен служыць, як усе беларусы – старанна і надзейна. Праз два месяца пасля прыезду зрабілі мяне яшчэ і сакратаром партыйнай арганізацыі дывізіёна. Гэтае сакратарства мне было патрэбна, як у мосце дзірка, але так жа яно было патрэбнае і іншым афіцэрам, таму пры першай магчымасці і спіхнулі гэтую "ганаровую пасаду" на маладога лейтэнанта.

Тут жа адбылося маё знаёмства і з "асобым аддзелам". Прыехаў лейтэнант (а мо старшы лейтэнант) – асабіст і пачаў гутарку, ці не пайшоў бы я служыць да іх. "Рабіце афіцыйную прапанову, тады і будзем гаварыць". Прапанову рабіць не сталі, а вось радавод "да сёмага калена" праверылі. Праз некаторы час прыязджае зноў той жа лейтэнант і пытае: "А чаму ты нідзе не пішаш, што ў цябе радня за мяжой". (За мяжой, г. зн. у Польшчы, жылі дзве бабуніныя сястры, якія пайшлі туды замуж, мо яшчэ пры цары, а мо пры Польшчы і па савецкіх законах раднёй не лічыліся, аднак іх знайшлі і, як кажуць, палічылі). "За якой мяжой? Яны дома, гэта я за мяжой". Я быў на Урале, да Сібіры адзін дзень язды, таму там ужо можна было жартаваць і так.



*Лейтэнант. 1977 год.*

Больш са мной на гэтыя тэмы не размаўлялі і, наогул, з прадстаўніком асобага аддзела наступны раз я сустрэўся праз шэсць гадоў, калі на гэтую пасаду прыехаў беларус, і самосабой у яго была нагода пазнаёміцца і папіць гарэлкі ў тайзе, падалей ад бацькоў-камандзіраў.

Чым далей я жыў на Урале, тым больш пераконваўся, наколькі лягчэй у жыцці, калі ў цябе за плячыма твой народ і твая краіна, хай нават і ў выглядзе саюзнай рэспублікі. У Верхім Тагіле я выпісваў ЛіМ, "Полымя", "Маладосць", і ўсе беларусы ў брыгадзе, корпусе і арміі ведалі што на "Непагоду" (пазыўны дывізіёна) прыехаў шчыры беларус.

Малодшы сяржант Ярашэвіч са статусам "дзеда" аказаў самую дзейсную падтрымку земляку. Сказаў: "З-за каго ў Судніка будуць непрыемнасці, той будзе мець бляклы выгляд". Дзейнічала. Парадак быў, прынамсі пакуль Ярашэвіч не звольніўся. Такая падтрымка не бывае лішняй на этапе ўваходу ў калектыў, асабліва для лейтэнанта.

Зямляцкія адносіны адразу склаліся з Коўтунамі (украінцы) і Барысенкамі (Апочка, Пскоўская вобласць). Віця Барысенка пачуўшы маю гаворку выгукнуў: "О, ты ж якраз, як мая маці, гаворыш!" На Урале гэтага дастаткова, пад зблізіцца.

Праз дзень-другі пра тое, што прыехала сям'я беларусаў стала вядома ў горадзе. Горад невялікі 14 тысяч чалавек, але праз некалькі дзён мы былі знаёмыя з усімі трымя сем'ямі беларусаў, якія ў гэтым горадзе жылі.

Мая ярка выражаная беларускасць спрычынілася да таго, што калі ўзнікла патрэба некага паслаць у камандзіроўку ў Барысаў, то з кандыдатурай пытанняў не было. Камандзіроўка была не мёд – начальнік варты вайсковага цягніка. Тыдзень дарогі ў "цяплушцы і велізарная адказнасць. З вайсковымі цягнікамі столькі было надзвычайных здарэнняў, што не расказаць. Тым не менш у мяне ўсё было добра.

У Барысаве я адразу стаў сваім сярод тутэйшых цывільных працаўнікоў вайсковага прадпрыемства, што дазваляла палюбоўна вырашыць мноства спрэчных пытанняў па здачы і прыёму тэхнікі.

У Барысаве я быў дома, таму ні аднаго эксцэсу, ні аднаго непаразумення.

Інакш было на Далёкім Усходзе, у Хабараўску. Там сустрэць беларуса яшчэ цяжэй, яым на Урале. Аднак жа. Вырашыў я наведаць свайго аднагрупніка ў Князьвалконцы, што не так далёка ад Хабараўска. Паехаў. Каб не ісці з пустымі рукамі, зайшоў у краму. Ну на Далёкі Ўсход цывілізацыя, наогул не спяшалася, а калі дайходзіла, то кавалкамі. Таму, зайшоўшы ў краму, я ніяк не мог зразумець, па якому прынцыпу там гандлююць. Падышоў да касы і пытаю: "Што тут у вас спачатку чэк выбіваюць, ці тавар бяруць?" Сказаў вядома ж па-расейску, але мой **"чэк"** так прагучаў, што з другога канца крамы зрываецца з месца зусім незнаёмы старшы лейтэнант, падбягае: "Паслухай, ты адкуль". Аднаго слова "чэк" з трох літараў аказалася дастаткова, каб за Хабараўска беларус пазнаў беларуса.

А быў на тым Далёкім Усходзе і экстрэмальны выпадак.

У Савецкім Саюзе – краіне суцэльнага дэфіцыту, дэфіцытам было і піва, асабліва ў такіх "не так аддаленых ад цывілізацыі месцах," як Хабараўскі край. Праз некаторы час пабыту на Далёкім Усходзе, разведаўшы месцазнаходжанне, хоць і дарагога, але піўбара, мы з групай афіцэраў паехалі папіць піва. За півам зачапіліся за маю гаворку, потым за Беларусь, ну як звычайна. Большасць была, як звыкла, дрымуча неадукаваная і ў гісторыі, і ў літаратуры, і ў мове нашай краіны. Гутарка займела гарачы характар, і я, быў грэх, сказануў, што "расеец – гэта, наогул, помесь мангола з яго канём". Ну афіцэры прапусцілі гэта міма вушэй, але не прапусцілі мясцовыя за суседнім столікам. Неўпрыкмет сітуацыя пачала напаляцца. І тут да нашага століка падыходзіць хлопец азіяцкай знешнасці і ціха на вуха кажа мне: "Беларус, рабі ногі!". У такіх абставінах два разы паўтараць не трэба. Як вучыў колісь наш камбат: "Сваечасова змыцца – не значыць струсіць". Я спакойна падняўся з-за стала, спакойна выйшаў з бара. Праз некалькі хвілін мяне дагнаў той жа азіят. Пазнаёміліся. Быў ён якут. Звалі Руслан Макараў. Чаму ён папярэдзіў мяне, а таму, што ў іх тыя ж праблемы. Расейцы ім нават імёнаў не пакінулі. Якут быў дастаткова цывілізаваны, прынамсці, каб адрозніць асіміляцыю ад пралетарскага інтэрнацыяналізму.

У Хабараўску на памяць аб Далёкім Усходзе я купіў кітайска-расейскі слоўнік. Праўда, з кітайскай мовы я засвоіў толькі парадак размяшчэння іерогліфаў у слоўніку, мабыць, назваць гэты парадак алфавітным будзе некарэктным.

Яшчэ з далёкаўсходняй экзоцікі можна згадаць дарожнае знаёмства з маладой бураткай Ганнушкай, якая цікава распавядала пра свой народ і дзвюхканфесійнасць буратаў, паводле якой беларуская дзвюхканфесійнасць: падзел у асноўным на праваслаўных і като-лікаў – і не падзел зусім. Бураты ж дзеляцца на пра-васлаўных і будыстаў. Кож-ны змешаны шлюб у іхніх варунках – гэта і драма, і трагедыя, і камедня адна-часова. І разыгрываюцца гэтыя спектаклі не на вя-лікай сцэне, а ў межах адной вёскі і на год на некалькі разоў.

Тым не менш паездка на Далёкі Усход не прапала дарам. У дарогу я ўзяў кнігу "Чэшская рапсодыя" на чэшскай жа мове. Сем дзён дарогі туды, ды чамусьці толькі шэсць назад хапіла для таго, каб адолець гэтую



*Начальнік варты вайсковага цягніка.*

кнігу у 600 старонак. Ніякага слоўніка, вядома ж, не было. Дайшоўшы да канца, я разумеў усё ў іхняй мове, праўда, далей у вывучэнні чэшскай мовы і літаратуры я зайшоў не далёка. Традыцыйнага "Швейка" я прачытаў па-ўкраінску, "Вайну з саламандрамі" Чапака па-расейску.

*(Працяг у наст. нумары.)*

## У МЕНСКУ АДБЫЛАСЯ ПРЭЗЕНТАЦЫЯ АЛЬБОМАЎ "МУЗЕЙ СТАРАЖЫТНАБЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ" І "МІНСК. ГІСТОРЫЯ ПАСЛЯВАЕННАГА АДНАЎЛЕННЯ. 1944 — 1952"

9 верасня ў Менску адбылася прэзентацыя альбомаў "Музей старажытнабеларускай культуры" і "Мінск. Гісторыя пасляваеннага аднаўлення. 1944 — 1952", выпушчаных выдавецтвам "Беларусь".

Галоўны рэдактар выдавецтва Алена Законнікава паведаміла, што ў першым альбоме прыведзены шэраг калекцый Музея старажытнабеларускай культуры, які нядаўна адзначыў сваё 25-годдзе і дзейнічае ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Гэта калекцыі жывапісу, скульптуры і разьбы, мастацкай апрацоўкі металу, мастацкіх тканін, беларускага народнага касцюма, ручнікоў, керамікі, прадметаў народнага побыту, а таксама археалогіі і прадметаў, якія адносяцца да вытокаў народнага мастацтва.

Паводле слоў А. Законнікавай, вялікая цікавасць да выдання была праяўлена на Маскоўскай міжнароднай кніжнай выставе-кірмашы, а таксама ў Германіі, Італіі, Францыі і Партугаліі.

Дырэктар музея, кандыдат мастацтвазнаўства Барыс Лазука паведаміў, што музей, адкрыты 15 траўня 1979 года, валодае 16 унікальнымі калекцыямі, якія ўключаюць 29,9 тыс. рэліквій, якім у 2001 годзе прысвоены статус нацыянальнага навуковага набытку. Акрамя таго, у фондах музея захоўваецца 13 тыс. фотанегатываў-фіксацый помнікаў матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа, а таксама архівы вядомых беларускіх вучоных. Сярод найбольш каштоўных рарытэтаў музея, які займае плошчу 1.200 квадратных метраў, вучоны назваў абразы XVI-XVIII стагоддзяў, славутыя слуцкія паясы XVIII стагоддзя, а таксама надмагільныя помнікі магнацкага роду Сапегаў.

Паводле слоў Б.Лазукі, калекцыі музея сталі асновай для стварэння фундаментальных навуковых прац, у тым ліку – "Гісторыі беларускага мастацтва" у шасці тамах, "Этнаграфіі Беларусі", "Археалогіі і нумізматыкі Беларусі", "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" у шасці тамах і "Энцыклапедыі Беларусі" у 18 тамах.

Ініцыятар стварэння кнігі, доктар мастацтвазнаўства Віктар Шматаў паведаміў, што плануецца выпуск другога тома выдання, у які ўвойдуць рэліквіі з іншых калекцый музея, у тым ліку – помнікі этнаграфіі і народнага мастацтва чарнобыльскай зоны. Альбом выдадзены на англійскай, беларускай і рускай мовах накладам 3 тысячы экзэмпляраў. Яго аптовая цана — 14.030 рублёў, а розьнічная — 18.240 рублёў.

Краязнаўца, аўтар – складальнік кнігі "Мінск. Гісторыя пасляваеннага аднаўлення. 1944-1952" Віталь Кірычэнка адзначыў, што ў кнізе прадстаўлена 297 здымкаў найбольш цікавых аб'ектаў сталіцы Беларусі — еўрапейскага горада з багатымі шматвяковымі традыцыямі. Аўтар мяркуе, што разам з фотаальбомам Іллі Куркова аб невядомым Менску 20-30-х гадоў мінулага стагоддзя, які выйшаў некалькі гадоў таму, выданне закрывае "белую пляму" у краязнаўчай літаратуры па гісторыі і культуры сталіцы.

Альбом выдадзены на беларускай і рускай мовах тыражом 2 тысячы асобнікаў. Яго аптовы кошт — 10.660 рублёў, а рознічны — 13.860 рублёў.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

## БЕЛАРУСКІЯ ПАШТАВІКІ БЯРУЦЬ УДЗЕЛ У VII МІЖНАРОДНЫМ КІРМАШЫ "КАЛЕКЦЫЯНЕР" У ПРАЗЕ

Менск, 10 верасня. Беларускія паштавікі бяруць удзел у VII міжнародным кірмашы "Калекцыянер", які праходзіць у Празе (Чэхія).

Як паведамілі БелаПАН у Міністэрстве сувязі і інфарматызацыі, дэлегацыя Беларусі на чале з начальнікам аддзела рэалізацыі філатэлістычнай прадукцыі РУП "Белпошта" Уладзімірам Буцько будзе прадстаўляць на кірмашы ўсе віды філатэлістычнай прадукцыі краіны за перыяд з 1992 года.

Сёлета на кірмашы прадстаўлены экспазіцыі 17 манетных двароў і 20 паштовых упраўленняў краін свету, а таксама філатэлістычнай прадукцыі 28 дзяржаў. Прычым упершыню ў кірмашы ўдзельнічаюць паштовыя службы Аўстрыі, Беларусі, Кіпра, Расіі, Турцыі і Швецыі, манетныя двары Венгрыі і Партугаліі, а таксама дылеры Аргенціны, Мальты, ПАР і Японіі. Акрамя таго, на кірмашы чакаецца значнае павелічэнне колькасці экспанентаў для калекцыянераў тэлефонных карт і мінералаў.

Для памятнага гашэння беларускай філатэлістычнай прадукцыі, прадстаўленай на кірмашы, выдавецкі цэнтр "Марка" РУП "Белпошта" падрыхтаваў штэмпель спецыяльнага гашэння, выраблены па эскізе мастака Івана Лукіна. Гэтым штэмпелем дэлегацыя Беларусі будзе карыстацца з 10 па 12 верасня.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

## МАЛІТВА

Госпадзі ! Творца ўсяго,
што ёсць,
Прашу ў Цябе ці ж многа?
Уратуй ад здзекаў маю Белаусь,
Прашу Цябе – адзінага Бога.

Ты даў палеткі, рэкі, лясы,
Ты даў нам сонца і неба,
Ты жыццё уклаў у каласы,
У пах жыватворнага хлеба.

Ты даў нам мову, як і ўсім,
А сёння яе зневажаюць.
І нават у Цэрквах імем Тваім
На мове чужой бласлаўляюць.

Адкрый, Госпадзі, вочы сляпым.
Прачысці глухім праўдай вушы,
Пашлі мужнасць, сумленне тым,
Хто сёння прадаў д'яблу душы.

І ад спакусы помсты абарані,
Дай ім пачуць Тваё слова.
Дапамажы, Госпадзі,
уратаваць карані
Дадзенага Табой слова.
Амінь!

## ОЙ, БЕЛАРУС, МОЙ БРАЦЕ...

Чужое – ўсё прыгожае,
Сваё – усё нягожае.
Чужыя – ўсе "вумнейшыя",
Свае – усе дурнейшыя.
Цябе так прывучылі
За многія гады.

Ой, беларус, мой браце,
Не гаспадар ты ў хаце,
Бо дазваляеш набрыдзі
Гаспадаром у ёй быць.
Расплюшчы, браток, вочы,
Прачысці сабе вушы,
Не будзь такі ахвочы
Заўжды гарэлку піць.
І ты адразу ўбачыш,
Які наш край прыгожы,
І што яго патрэбна
Табе і мне любіць.
І ты тады пачуеш,
Як мілагучна мова,
І як на ёй прыгожа
Мы можам размаўляць.
Тады ты волат будзеш
І не дазволіш болей
Сябе і сваю спадчыну
Нікому зневажаць.

*Фелікс Шірманкоў.*



*Ні адно застолле, ні адно свята ў вёсцы Какорыца Драгічынскага раёна не абходзіцца без вясёлых вясковых музыкаў - кіроўцы Міхаіла Прастакевіча, вартаўніка Міхаіла Крывіцкага і загадчыка клуба Сцяпана Зіновіча. Польскія, украінскія, а таксама беларускія народныя песні, песні роднага краю складаюць бясконцы рэпертуар гэтых творча адораных людзей.*

*Фота Р. Кабяка, БелТА.*

## *Вольга Сакалова*

Можа, княжы мой род,
можа, панскі,
Можа, быў і ў мяне свой герб;
Ды, здаецца, анёл той паганскі
Ўсё змяніў мне на жыта і серп...

І пазначыў мой род на зямельцы–
Скарб сыпнуў паэтчны ў душу
І турботаў даў
поўным вядзерцам,
Я ж за ўсё толькі дзякуй кажу...

За блакіт і валошак, і неба,
За сцяжынку, што роснай была,
І за лусту духмянага хлеба,
Што матуля за словам дала...

Можа, княжы мой род,
можа, панскі,
Можа, быў і ў мяне свой герб;
Ды , здаецца, анёл той паганскі
Ўсё змяніў мне на жыта і серп...

**Памяці мамы**

Я словы зшыхтую
ў светлы радочак,
Апошняй размовы
апошні снапочак...

Я вытку аснову –
званок за званочкам,
Я выпраду словы –
дзянёк за дзянёчкам...

Я высцелю сцежку –
пад кожны слядочак,
Я свечку пастаўлю –
у кожны кутачак....

Я вытку палотны
з матулінай мовы,
З далёкай, журботнай,
апошняй размовы...

Я вывяжу словы
тугім перавяслам,
Каб роўная мова
ў сэрцы не згасла!

* * *

Мне не пражыць
без матчынага слова,
Мне часта сніцца
родны мой парог,
І чыстая крынічанька-замова,
І беласкурая бярозка-абярог.

Мне не пражыць
без матчынае песні,
Як не пражыць без сонца і цяпла,
Без мілага буслінага Палесся
І без дарогі, што ў сусвет вяла...

Мне не пражыць
без матчынага слова,
Мне часта сніцца
родны мой парог...
Адтуль у душу –
дзейсная замова,
Адтуль чароўны ў сэрцы абярог.

* * *

Мовай Коласа, мовай Купалы
Гаю свае раны – бы п'ю з ручая...
І ў горкія дні,
а іх надта ж нямала,
Са мной нескароная мова мая !

*г. Менск.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:* 220034, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by
http://tbm.org.by/ns/

*Рэдакцыйная калегія:*
Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Вольга Іпатава, Васіль Ліцьвінка, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 13. 09. 2004 г. Замова № 1739.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы. Наклад 5000 асобнікаў.
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 1280 руб., 3 мес.- 3840руб.
**Кошт у розніцу:** 290 руб. (у Менску - 310 руб.)